PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 47 (1854) 24 ЛІСТАПАДА 1991 г. ЦАНА 1000 зл.

*Помнікі культуры*



# АНДРЫЯНКІ

Калі нехта падарожнічае на шляху Бельск — Сямяцічы, у паўдарогі мінае сяло з відавочнаю здалёк царкоўнаю званіцай. Гэта царква ў Андрыянках.

Назва сяла Андрыянкі ўжо выразна сведчыць пра паходжанне заснавальнікаў вёскі. Спачатку гучала яна „Андриянчичи", а за аснову ўзяла імя „Андр'ян" (Адр'ян) (М. Кандрацюк „Назвы..."). Вёска існавала ўжо ў XV ст. Была заснавана на шляху Бельск-Драгічын, першапачаткова ля пераправы праз раку Лясную. Праўдападобна, пасля валочнай памеры атрымала яна сённяшняе месцазнаходжанне. Пры заснаванні вёска належала да каралеўскіх уладанняў, затым перайшла ў прыватныя рукі. У 1525 г. уладальнікам „Андриянчич" быў гаспадарскі дваранін Андрэй Фалькевіч. Яго ўладанні непасрэдна межавалі з Боцькамі, якія тады належалі да Фёдара Сапегі (лініі чарэйскай).

Паводле адміністрацыйнага падзелу з таго перыяду, Андрыянкі ўваходзілі ў Мельніцкі павет. Там жа, у горадзе над Бугам рашаліся важлівыя справы ў жыцці сяла. Вось у 1545 г. „Рачко Пучицкий, наместник Мельницкий, судья Бельский", выдае „Размежную грамоту", якая акрэслівала зямельныя граніцы шляхты з роду Пятроўскіх і „Ондриянчан".

Даволі даўно Андрыянкі былі падзелены на тры часткі: Кошкі, Зарэчча ды Андрыянкі Вялікія або Царкоўныя. У Андрыянках-Кошках здаўна існаваў двор, што знаходзіўся пры даліне Леснай. Двор даволі часта быў сцэнай цікавых здарэнняў, месцам важкіх сустрэч; асабліва ў гадах 1658-1667, калі Андрыянкі арандаваў у Сапегі Ян Антон Храпавіцкі, вядомы палітычны дзеяч і аўтар „Дыарыуша".

Найранейшая пісаная звестка пра царкву ў Андрыянках паходзіць з 1580 г. (А. Ябланоўскі „Падляшша"). Да ўвядзення царкоўнай уніі заставалася яшчэ 16 гадоў... Звестка, на жаль, не дае ўяўлення аб тадышнім выглядзе храма. У 1629 г., ужо ў перыяд уніі, была выдадзена для гэтай царквы „инвеститура" ад епіскапа Войны, якая акрэслівала правы царквы на зямлю. Толькі з 30-ых гадоў XVIII ст. пачынаецца дакладная пісаная гісторыя (захаваная) царквы ў Андрыянках. З перыяду 1737-1837 гадоў шчасліва захаваліся дакументы генеральных ды дэканальных візітаў таго прыхода (парохіі). Даюць яны ўяўленне пра выгляд тадышняга храма, арганізацыю прыхода і агульную сітуацыю царквы на нашых землях у другім і трэцім стагоддзі яе быцця ў уніі.

У „візыце" 1759 г. чытаем: „Cerkiew drewniana brusowana nowa in Ferma Buus. Kosztem J.W. Pana Sapiehi Podskarbiego Nadwornego W.X.L. roku 1743 wybudowana". Храм гэты прадстаўляў сабою ў той перыяд адну з тыповых формаў царкоўнай драўлянай архітэктуры на заходнім узмежжы Беларусі. Пабудаваны на плане крыжа з крухтай (прытворам). Пасярэдзіне адзін купал з крыжам. Спачатку храм быў пакрыты саломаю, а каля 1775 г. перакрыты гонтамі. Характэрным знешнім элементам храма былі тры „фацыяты" (нешта падобнае сустракаем у царкве на Грабарцы ці Прачысценскай у Бельску). Інтэр'ер і ўбранства храма было згоднае з пастановамі Замойскага Сіноду 1720 г. Адсутнічаў тут іканастас. У „Вялікім алтары" першапачаткова знаходзілася ікона св. Тройцы, пазней замененая абразом Дзевы Марыі. Таксама былі тут два бакавыя алтары.

У 1775 г. уніяцкая парохія Андрыянкі налічвала 335 асобаў, пражываючых у

( Працяг на стар. 6 )

# ПОЛЮСЫ ВЫБАРЧЫХ ЭМОЦЫЙ

Рэчпаспалітая Польшча. Кастрычнік 1991 г. Толькі што закончаны збор подпісаў і пачаліся апошнія хвіліны рэгістрацыі кандыдатаў. Ёсць афіцыяльнае пацвярджэнне — Беларускі выбарчы камітэт зарэгістраваў 11 кандыдатаў у Сейм і аднаго ў Сенат у беластоцка-сувальскай выбарчай акрузе. Важных подпісаў 20.247. Зарэгістраваны кандыдаты і ў чарговых шасці акругах.

Амаль дваццаціасабовы актыў Беларускага выбарчага камітэта святкуе свой дзень!

Выбарчы камітэт праваслаўных назбіраў недзе 10.500 подпісаў і зарэгістраваў усяго шэсць кандыдатаў і толькі ў нашай акрузе. Такім чынам наш камітэт пераняў яго ролю ў іншых акругах: Гданьск, Ольштын, Варшава і г.д. Узнік там вельмі спрыяльны клімат для нашага супрацоўніцтва з Праваслаўнай царквою.

Група Аляксандра Баршчэўскага, якая сфармавала Выбарчы камітэт Беларускага таварыства нават пры дапамозе штатных працаўнікоў не назбірала 5 тысяч подпісаў і таму не зарэгістравала свайго спіску кандыдатаў. Але раней яны хацелі стварыць кааліцыю з камітэтам праваслаўных нават за цану рэзыгнацыі з прыметніка „беларускі" ў назве камітэта. Аднак жа, аднаўшы ў іх шмат часу для збору подпісаў, усё ж іх не прынялі, матывуючы апаганьваннем Царквы ў камуністычны перыяд.

Прадстаўнікі нашага камітэта таксама двойчы сустракаліся з лідэрам камітэта праваслаўных Яўгенам Чыквінам. Адбылася і адна кароткая сустрэча прадстаўнікоў усіх трох камітэтаў. Даведаўшыся там аб немагчымасці прыняцця ў названні камітэта нават акрэслення беларуска-праваслаўны, ці праваслаўна-беларускі, мы палічылі далейшыя размовы проста беспрадметнымі і выйшлі.

Пасля гэтага і праз усю выбарчую кампанію нас абвінавачвалі ў падзеле сіл і праваслаўна-беларускага асяроддзя. Першым доказам, што ніякая супольнасць з камітэтам пасла Яўгена Чыквіна была немагчымай, ёсць сумнае дасведчанне групы А. Баршчэўскага. Многія і сёння лічаць, што якраз выбары, праведзеныя асобна трыма камітэтамі, з'яўляюцца прычынаю нашага паражэння. Калі б так, тады жыццё было б надта

( Працяг на стар. 4 )

# ЯШЧЭ АБ КАРТАХ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

Карты і планы гэта пакрысе маё хобі. У мяне іх больш за сто, і таму я хацеў бы пашырыць тэму, аб якой пісаў Ю. Зюзя („Новыя карты, новыя інфарматары") у „Ніве" н-р 36/91. Аўтар засяродзіўся галоўным чынам на гістарычных інфармацыях, мяне ж як актыўнага турыста больш цікавіць сама карта, яе картаграфічная вернасць, таму і вывады будуць мо крыху іншыя.

Першай картай, якая была сапраўдным пераломам у спосабе турыстычных інфармацый аб Беласточчыне, была выдадзеная ў 1989 г. Асяродкам навуковых даследаванняў у Беластоку і Акруговым геадэзійна-картаграфічным прадпрыемствам турыстычна-прыродная карта „Аколіцы Беластока" (Okolice Białegostoku). Ахоплівае яна абшар вакол Беластока — ад дзяржаўнай мяжы на ўсходзе, да ракі Сліны на захадзе (колішняя польска-літоўская граніца да 1569г.), на поўначы да лініі Саколка-Монькі і па паўднёвы бок ракі Нарвы. Важнасць гэтай карты заключаецца ў двух фактах: маштаб 1 : 150000 (ранейшыя карты — (1:500000) і інфармацыя пра рэлігійны краявід Беласточчыны. Была ўведзена сімволіка храмаў розных канфесій: касцёлы, цэрквы, мячэці, сінагогі, кірхі, капліцы. Раней на турыстычна-краязнаўчай карце „Беластоцкае, Ломжынскае і Сувальскае ваяводствы" 1 : 500000 з 1978 г. пазначаны былі толькі старадаўнія касцёлы і мячэці. Ніякіх цэркваў, сінагог, пратэстанцкіх збораў на карце няма. У выданні тае ж самае карты з 1984/85 г. ёсць ужо царква — у Грабарцы. Тады ўжо ў польскім тэлебачанні паказалі Грабарку толькі раз, так што хаваць яе на карце было недарэчна. Іншую тактыку прынялі аўтары карты „Водны шлях Нарва" выдавецтва ПТ-ТК „Край" з 1986 г. З дзевяці цэркваў на тэрыторыі, ахопленай картай, праваслаўным крыжам, як цэрквы, пазначаны чатыры, тры названы касцёламі, а дзве зусім прапалі. Затое з'явіліся тры неіснуючыя касцёлы: другі ў Нараўцы, у Кажанах і ў Сліўне. Падобная праўдамоўнасць планаў горада Беластока. У выданні з 1980 ёсць толькі сімвал „касцёлы" і ўсе цэрквы адзначаны як касцёлы. У выданні з 1986 паявіўся ўжо знак праваслаўнага крыжа — які, зрэшты, выглядае як карыкатура — але ім адзначаны толькі дзве царквы: св. Мікалая і св. Духа, а чатыры (тады) астатнія — як касцёлы. Храмаў пратэстантаў, даўніх сінагог таксама няма. Выдаўцы пазнейшых карт „Вэрсус" і Вайсковае картаграфічнае прадпрыемства пайшлі ўжо працёртым шляхам. Праўда, ёсць і ў іх картах пэўныя недахопы ў сімволіцы.

Паспрабуйма прасачыць, як выглядае інфармацыя аб рэлігійным краявідзе Беласточчыны на картах „Беластоцкае ваяводства" выдавецтва „Вэрсус" і „Ландшафтны парк Кнышынскай пушчы" Вайсковага картаграфічнага прадпрыемства. Апошняя мае наступную сімволіку храмаў: касцёлы, цэрквы, мячэці, даўнія сінагогі, капліцы. Калі глянем на карту, відаць, што як касцёлы адзначаны не толькі рымска-каталіцкія касцёлы, але і храмы пратэстантаў, напрыклад, баптыстаў у Беластоку-Скарупах. Ясна, што невядомы турыст палічыць яго каталіцкім касцёлам. Яшчэ большы зман з капліцамі — усе яны, каталіцкія, праваслаўныя, пратэстанцкія, адзначаны аднолькава лацінскім крыжам. І вось такім простым тэхнічным трукам вайсковыя картографы „накіравалі" рэлігійную рэчаіснасць Беласточчыны ў карысць пануючай веры.

Гэтай памылкі не зрабілі аўтары карты, выдадзенай „Вэрсусам". У яе намнога пашырана сімволіка храмаў. Асобнымі знакамі (лацінскім крыжам) адзначаны каталіцкія касцёлы і капліцы, іншым (праваслаўным крыжам) — праваслаўныя цэрквы і капліцы. Ёсць і сімвал „касцёлы іншых хрысціянскіх веравызнанняў". Пазначаны сінагогі і мячэці. Пакуль што якраз карта „Беластоцкае ваяводства" „Вэрсуса" найбольш аб'ектыўна перадае рэлігійную спецыфіку Беласточчыны (а далучаны да яе інфарматар можна проста выкінуць). На другім месцы трэба паставіць „Аколіцы Беластока", а найбольш зманлівая карта — гэта „Ландшафтны парк Кнышынскай пушчы".

Параўнайма яшчэ тры названыя карты адносна назваў мясцовасцяў. У параўнанні з „Аколіцамі Беластока" і „Беластоцкім ваяводствам", якія тут ідэнтычныя, на карце „Ландшафтны парк..." знойдзем прыклады паланізацыі назваў і звыклай неахайнасці. І так, вёска Zapieczki стала называцца Zapiecek, Suchy Hrud — Suchy Gród (зноў гэты горад на вёсцы), Brzozowy Hrud у Brzozowy Grud, Hały Ług у Chały Ług. Ёсць і іншыя памылкі, напрыклад, Радулін — Радунін, Осовічэ — Усовічэ і г.д. Відаць, што варшаўскія вайсковыя картографы ў мясцовай тапаніміі нічога не кемяць і пішуць як захочуць.

На заканчэнне яшчэ крыху аб гістарычнай інфармацыі на карце „Ландшафтны парк...". Апрача плюсаў, аб якіх пісаў Ю. Зюзя, знойдзем і старыя, знаёмыя памылкі. І так, пры Супраслі напісана: „На каталіцкім могільніку пасляуніяцкая капліца з 1878 г.". Калі брэсцкую унію адмянілі на палоцкім саборы ў 1839 г., то хто збудаваў уніяцкую капліцу на сорак гадоў пазней? Гэту недарэчнасць паўтарае большасць турыстычных інфарматараў. А ўжо ў 1980 г. аўтары даведніка „Беластоцкае ваяводства" В. Манкевіч, З. Трачэўскі, С. Какарэка напісалі, што капліца пабудавана ў 1815 г. Дарэчы, яе сённяшні выгляд дае падставы меркаваць, што капліцу ставілі ў двух этапах — спярша драўляную капліцу (у 1815), а пасля дабудавалі мураваную вежу, мабыць, у сямідзесятыя гады. У канцы XIX ст. часта дабудоўвалі вежы да старэйшых храмаў. Памылковая таксама дата паўстання царквы ў Саколцы: 1885 год. Яе паставілі ў 1850-53 г.г., у 1879 яна згарэла і была адрамантавана да 1883 г. (К. Бондарык „З гісторыі праваслаўя ў Саколцы", „Białostocczyzna" 3/88). Фальшывая і інфармацыя, што капліца ў Святой Вадзе ля Васількова з 1719 г. У гэты час месца гэта служыла яшчэ ўсходняму абраду, тады уніяцкаму, у XIX ст. праваслаўным, а рымскія католікі забралі яго зусім нядаўна, здаецца, ужо пасля вайны. У 1719 г. магла быць капліца, але драўляная, падобная да тых царковак з XVIII ст., якія захаваліся пры іншых святых крыніцах: у Пяценцы ці Грабарцы. Сучасная, мураваная капліца мае нейкія прыкметы, тыповыя для архітэктуры эпохі класіцызма. Маглі яе пабудаваць ля паловы XIX ст. як праваслаўную царкву, а ўжо ў наш час католікі яе перарабілі пасвойму. На жаль, шматлікія касцёлы і цэрквы Беласточчыны маюць такія „белыя плямы" ў сваёй гісторыі. І пакуль не дачакаемся сур'ёзнага, навуковага апрацавання гісторыі сакральнай архітэктуры рэгіёна, у якім шчыра, без прадузятасці напішуць аб усіх перыпетыях храмаў, не астаецца нічога іншага, як прыглядацца, параўноўваць архітэктурныя прыкметы, форму крыжоў і рызыкаваць датацыяй.

У падсумаванні хачу сказаць, што картам да ідэалу яшчэ далёка, але за тры апошнія гады адбыўся вялікі поступ. Добра было б, каб быў ён трывалым.

**ВІКТАР АЛЕКСЯЮК**

******************************************************************************************

## УВАГА! КОНКУРС!

Рэдакцыя беларускіх радыёперадач „Для школы і для дому" аб'явіла конкурс для вучняў старэйшых класаў падставовых школаў і ліцэяў. Па просьбе слухачоў і нашых чытачоў друкуем заданні гэтага конкурсу.

1.Адкажыце на пытанне:

**Хто напісаў гэты верш?**

**Кінь вечны плач свой**
**аб старонцы!**
**Няўжо жа цёмнай ночцу ты**
**Не ўбачыш, што глядзіцца сонца**
**Ў люстэрка - месяц залатЫ?!**

Дадамо яшчэ для аблягчэння, што сёлета святкуем 100-годдзе з дня нараджэння гэтага паэта.

2.**Ёсць беларуская прыказка: „Каб з ручая напіцца, трэба нахіліцца". Напішыце растлумачэнне гэтай прыказкі, гэта значыць, як вы разумееце яе сэнс і як гэтую народную мудрасць трэба выкарыстоўваць у нашым сённяшнім жыцці.**

3.**Напішыце нататку аб навучанні беларускай мовы ў вашай школе, а калі ў вас беларускай мовы няма, дык проста аб сваёй школе.**

За найлепшыя, найбольш змястоўныя адказы рэдакцыя падрыхтавала вартасныя ўзнагароды. Фундатарам узнагарод з'яўляецца беларуска з Бельгіі Зоя Смаршчок.

Свае адказы на пытанні і заданні ў конкурсе прысылайце па адрасу:

Redakcja Białoruska
Polskie Radio
ul.Świerkowa 1
15-328 BIAŁYSTOK

з дапіскай на канверце „Konkurs".

Запрашаем усіх вучняў удзельнічаць у гэтым і наступных конкурсах.

**Яніна Чэрнякевіч**




„Народная газета" — орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь змясціў **заяву дэпутатаў Апазіцыі БНФ**, у якой чытаем: „Настае крытычны час для нашай Бацькаўшчыны. 25 жніўня перамаглі дэмакратычныя ідэі Беларускага Народнага Фронту і яго прыхільнікаў, але ўсе структуры кіравання, уся ўлада на Беларусі засталіся, як і раней, поўнасцю ў руках камуністычнай наменклатуры". Народныя дэпутаты Апазіцыі БНФ патрабуюць адстаўкі ўрада Вячаслава Кебіча, роспуску Вярхоўнага Савета, нечарговых выбараў, перадачы маёмасці КПБ-КПСС-ЛКСМБ народу і спынення дзейнасці КПБ-КПСС.

**Беларусь выбрана на 46-й сесіі Генеральнай Асамблеі членам эканамічнага і сацыяльнага савета (ЭКОСОС)**, які з'яўляецца адным з шасці галоўных органаў ААН. Усяго ў саставе ЭКОСОС 18 членаў. Цяперашнія выбары набылі вострыя і многаэтапны характар у выніку таго, што колькасць дзяржаў, якія вылучылі свае кандыдатуры для выбрання, значна перавысіла колькасць вакансій. Тым не менш, Беларусь выбрана ў састаў ЭКОСОС тэрмінам на тры гады ўжо ў першым туры галасавання.

**Старшыня Арганізацыйнага камітэта прафсаюзаў „Незалежнасць" у Менску Георгій Мухін і старшыня „Незалежнасці" ў Магілёве Уладзімір Шарпаў** прабывалі з візітам у Беластоку па запрашэнню рэгіянальнай „Салідарнасці". Мэта візіту — наладзіць кантакты паміж беластоцкай „Салідарнасцю" і гродзенскай „Незалежнасцю", якая там толькі што стварылася. У Беларусі незалежны прафсаюз існуе ўжо год і ўзнік пад час забастовак на вялікіх заводах рэспублікі. Зараз „Незалежнасць" налічвае 35 тысяч членаў на 21 прадпрыемстве. На сустрэчы ў беластоцкай „Салідарнасці" прадстаўнікі незалежнага прафсаюза сказалі: „Шкадуем, што ў Беласток прыехалі мы ўжо пасля выбараў. Растлумачылі б мы беларусам, пражываючым на Беласточчыне, які шанц даюць ім выбары ў парламент. Яны гэты шанц страцілі, галасуючы за камуністаў. Людзі тут не ведаюць, што такое камуністычная сістэма. Мы ведаем, але чым бліжэй Чарнобыля, тым лепш ведаем яе. Калі камусьці тут жывецца цяжка, то запрашаем да нас".

**У нядзелю, 10 лістапада** Беластоцкае радыёвяшчанне перадало ў эфір першую паўгадзінную перадачу на ўкраінскай мове „Українська думка".

*Жанна Бічэўская* — першая дама рускай балады, гастраліравала ў Беластоку. У Драматычным тэатры спявачка выступіла з двумя канцэртамі.

**Два беларускія калектывы** прымалі ўдзел у прэзентацыі культуры Беласточчыны на Гродзеншчыне. Бельская „Маланка" давала канцэрт у Ашмянах, а жаночы калектыў з „Дабрывады" спяваў у Абухаве.




* Выбарчыя прыгоды Пятра Прышчэпкі.
* Нарыс пра Лёніка Тарасэвіча.
* Святыя беларускай зямлі–св. Софія Слуцкая.
* Весткі з Рыбалаў і Нараўкі.
* Новыя вершы М. Лукшы, Н. Артымовіч, Я. Чыквіна і апавяданні С. Яновіча.





# ЯКОЕ ІМЯ БУДЗЕ МЕЦЬ РЫБАЛАЎСКАЯ ШКОЛА?

Ваяводскі аддзел Таварыства „ПАКС" у Беластоку выступіў з прапановай прысвоіць Пачатковай школе ў Рыбалах імя Ударных кадравых батальёнаў (UBK — Uderzeniowe Bataliony Kadrowe) АК. „ПАКС" узяў бы школу пад свой патранат і ў будучыні магла б яна разлічваць на рознага тыпу дапамогу, у такім ліку і фінансавую.

Адкуль такая прапанова? 11 чэрвеня 1943 года каля вёскі Паўлы (4 кіламетры ад Рыбал) быў разбіты немцамі IV Ударны кадравы батальён. Атрад быў знішчаны цалкам, загінула звыш 20-ці чалавек (крыніцы разыходзяцца, калі гавораць пра дакладны лік), удалося выжыць толькі некалькім асобам. Чым былі Ударныя кадравыя батальёны? Гэта мілітарныя ўтварэнні Канфедэрацыі народу — польскай палітычнай арганізацыі, якая была створана пад час вайны і змагалася з немцамі, але не падпарадкоўвалася Лонданскаму ўраду. Правадыром Канфедэрацыі народу і камандзірам УБК быў Баляслаў Пясэцкі — да вайны кіраваў нацыянал-фашысцкім рухам ONR-Falanga, пасля вайны ўзначаліў „ПАКС". Паводле Канфедэрацыі народу ў палітыцы той перамагае, хто наступае: „Незалежная Польшча напэўна будзе — за вялікую Польшчу трэба змагацца". Ударныя кадравыя батальёны ствараліся ў Варшаве і ваколіцы, затым накіроўваліся на г.зв. Крэсы як доказ польскага характару гэтай зямлі. 17 жніўня 1943 года (ужо пасля бою пад Паўламі) увайшоў у жыццё загад камандзіра Польскіх узброеных сілаў на бацькаўшчыне генерала „Бора", які падпарадкоўваў УБК камандаванню АК. Але да канца вайны УБК мелі даволі вялікую аўтаномію, нават сваю асобную вайсковую наменклатуру.

Дырэктарка школы ў Рыбалах Яўгенія Грыб лічыць, што да прапановы „ПАКСу" павінны аднесціся перш-наперш бацькі дзяцей, якія тут вучацца. Яны вырашаць, ці будзе прысвоена школе такое імя, ці не. 23 верасня г.г. на бацькоўскім сходзе людзі ўпершыню пачулі пра гэту прапанову, але ніяк на яе не зарэагавалі, маўляў, нас замала сёння.

Старшыня бацькоўскага камітэта Пётр Мартынюк пераказаны, што людзі не згодзяцца на тое, каб школе далі імя АК (IV УБК не паспеў хаця б фармальна ўвайсці ў структуры АК, але ў нас людзі ўсю польскую партызанку так называюць — М.В.). Кажуць яны, непатрэбнае нам ніякае АК, бо мы добра помнім, што яно тут рабіла ў 45-тым, 46-тым гадах. Хіба ў нас сваіх беларусаў не хапае, каб іх іменем назваць школу? Нам сёння кажуць так называць, а праз якія два гады зменіцца сітуацыя і зноў трэба будзе мяняць назву школы.

Так думаюць людзі ў вёсцы Рыбалы, інакш у мясцовым ПГРы — у большасці прыезджыя палякі. Яны да прапановы „ПАКСу" аднесліся станоўча. (У школе каля трэцяй часткі дзяцей — палякі-католікі).

Пётр Мартынюк супраць таго, каб у такіх справах за карэнных рыбалаўцаў рашалі людзі, зусім не звязаныя з гэтай зямлёй, якія прыязджаюць сюды на год-два, толькі таму, што могуць атрымаць кватэры. Калі паяўляецца нешта лепшае, пакідаюць яны і пэгээраўскія кватэры, і гэтую зямлю, і ўсе мясцовыя праблемы. Не верыць таксама спадар Мартынюк у дапамогу „ПАКСу" школе, а ўжо асабліва фінансавую. Прыехалі 60-гадовыя дзядзькі і абяцаюць, што будуць апекавацца школай. Як яны гэта хочуць рабіць і як доўга шчэ будуць мець да гэтага здароўе — Бог іх ведае.

Людзі наогул згодна сцвярджаюць: ніхто нічога не мае да тых партызан, што загінулі ля Паўлаў, яны змагаліся з немцамі, мірнага насельніцтва не чапалі. Людзі шануюць іх памяць, парадкуюць помнік на месцы іхняй смерці. Памагаюць у гэтым і вучні са школ у Рыбалах і Паўлах (філіяльны пункт). Гэта была трагедыя, якіх ці мала прынесла з сабою апошняя вайна. У гэтай самай аколіцы амаль роўна праз год здарылася другая вялікая бяда.

26 ліпеня 1944 года, ужо перад самым фронтам, на хутары Трычоўка, немцы спалілі 27 мужчын, жыхароў вёсак: Рыбалы, Паўлы, Канюкі і Цялушкі. Хаваліся яны ў лесе непадалёк Паўлаў ад надыходзячага фронту і былі схоплены аблавай на партызан, якія забілі нямецкіх сувязных.

— Можа, варта таксама неяк ушанаваць памяць гэтых нявінных ахвяр. Праўда, цяжкавата было б вызначыць, напрыклад, адну агульную назву для школы, бо гэтыя папаленыя мужчыны не былі ў ніякім атрадзе, у ніякай арганізаванай групе, — кажа Мікалай Харытанюк, відавочца як аднае, так і другое трагедыі (было яму тады 15 гадоў). Але ж нельга памятаць пра адных і забываць пра іншых толькі таму, што такое, а не іншае грамадска-палітычнае становішча ў краіне.

Мікалай Ігнацюк з Рыбалаў лічыць, што гэтая прапанова — правакацыя.

— Чаму ж яны ўсё прууца, так упарта і нахабна, на беларускі арэал, — пытае ён. — Нам трэба школы называць іменем свайго народа, які столькі выпакутаваў, але які даў нямала славутых сыноў. А чаму ж нам не ўшанаваць загінуўшых у Трычоўцы? Няўжо беларуская кроў менш вартая за польскую? А ўжо абавязкова трэба ўстанавіць прозвішчы ўсіх памардаваных, напісаць нашу тут гісторыю, і гэта заданне вас — гісторыкаў, журналістаў.

Стрымана да прапановы „ПАКСу" паставіліся і настаўнікі. Яны маюць свой аргумент супраць прысваення школе імя. Школа ў Рыбалах невялікая, бедная, як усе вясковыя, а тут дзеля такой працэдуры трэба запрасіць гасцей, улады, прынамсі ваяводскія, з гэтым жа звязаныя выдаткі. А скуль тыя грошы возьмеш — пытае дырэктарка. То ж нават не ўсе беластоцкія школы маюць сваё імя, а тут даваць яго невялікай вясковай школцы...

Пакуль што ніхто ніякага рашэння не прыняў. Бацькоўскі сход, які мае закончыць гэтую справу, плануецца на канец лістапада.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

*************************************************************************************

# ПЛЕНЭР, ЗУБРЫ, ПАРК

Польскае тэлебачанне ў кастрычніку г.г. паказала аж тры фільмы, якія былі зняты раней у Белавежы.

19-га, па II праграме, дэманстраваўся паўгадзінны рэпартаж Францішка Кудука „Пленэр у Белавежы", які перадаваў атмасферу XXVI Міжнароднага мастацкага пленэру „Белавежа '91". Гледачы маглі пабачыць шматлікія палотны, намаляваныя ў пушчы, а таксама паслухаць цікавыя выказванні саміх мастакоў. Адзін з іх сказаў, быццам даючы адпор усім тым, хто хацеў бы, каб на пленэрах у Белавежы малявалася толькі Белавежа, што знаходжанне ў сэрцы пушчы стварае мастакам магчымасць ажыццяўлення тых намераў, якія яны не маглі здзейсніць дзесьці там у сябе, у сваіх гарадах. Тут, у цішыні, спакоі могуць яны, нарэшце, узяць пэндзаль і адлюстраваць на палотнах свае мастацкія вобразы. І таму Станіслаў Кічко маляваў Гродна, а Віктар Шоцік з Вільні міфалагічныя матывы. Рэпартаж Ф. Кудука дэманстраваўся ў цыкле „Галерэя 38 мільёнаў".

31-га былі паказаны два фільмы. Фільм „Справа белавежскага зубра" быў зняты Янам Валенцікам у другой палове 1988 г. і часткова ў 1989 годзе. Малады фільмовец, які ўжо шмат разоў займаўся белавежскімі тэмамі, на гэты раз задумоўваецца над будучыняй караля пушчы, з якім у апошні час штораз больш клопатаў. Яго тут зараз проста замнога (у пушчы, па абодвух баках граніцы, жыве звыш 600 зуброў).



*Чароўнасць Белавежы.*

Другі фільм — „Белавежскі нацыянальны парк" паказваўся ў цыкле „Жывем у Польшчы" і быў накіраваны да школьнай моладзі. Здымаўся ў верасні г.г. Іх аўтар — Ежы Фронк. Аўтарам сцэнарыя і вядучым быў Герард Савіцкі. У 20-мінутнай тэлеперадачы паказваліся: прыродазнаўчы музей, па якім вадзіў малады захавальнік фондаў Пётр Бартызэль, выпускнік Лодзінскага універсітэта, палацовы парк, сціслы запаведнік прыроды і паказны запаведнік, што непадалёку Белавежы. Усе гэтыя аб'екты ўваходзяць у састаў нацыянальнага парку.

Пры нагодзе паінфармую, што ў жніўні г.г. у Белавежы здымаўся яшчэ адзін прыродазнаўчы фільм, на гэты раз нямецкімі кінематаграфістамі. Магчыма, ён ужо нават дэманстраваўся па тамашняму тэлебачанню.

**ПЁТР БАЙКО**
**Фота аўтара**

# ПОЛЮСЫ ВЫБАРЧЫХ ЭМОЦЫЙ

( Працяг са стар. 1 )

простым: спалучыць сілы, узяць тры мандаты і стварыць беларускі клуб у Сейме. Давайце палічым, колькі трэба галасоў, каб узяць два мандаты? Палічылі. На два мандаты не хапіла б. Можа яшчэ каму-небудзь здаецца, што каб ён апынуўся ў выбарчым спіску, тады пры яго заслугах і папулярнасці... ЭЭэх! Магчыма. Але хай прыкладам будзе самы заслужаны і вядомы на Беласточчыне паэт Віктар Швед. Ён — шматгадовы дзеяч, правёў тысячы сустрэч з чытачамі ягоных вершаў на Беласточчыне. І ён не выйграў. Трэба глянуць праўдзе ў вочы: лідэр Саюза левых дэмакратаў Уладзімеж Цімашэвіч на гэты раз быў па-за канкурэнцыяй.

Але ж Беларускаму выбарчаму камітэту на самым пачатку пашанцавала як ніколі раней: дзякуючы рэгістрацыі сваіх кандыдатаў на краёвым узроўні мы атрымалі 42 хвіліны ў цэнтральным тэлебачанні і 9 хвілін у рэгіянальнай праграме. Мы атрымалі таксама час для 25 цэнтральных радыёперадач. У гісторыі беларусаў у Польшчы раней яшчэ такога не бывала! Кажуць, перадачы ў нас атрымоўваліся не горшыя, чым у іншых польскіх партыяў. Калі нават у нашых вёсках ды мястэчках мала хто глядзеў выбарчае „шоу" з увагі на познюю пару, то ўсё-такі Польшча вельмі цікавілася. Упершыню перадалі мы грамадству краіны такую вялікую колькасць інфармацый пра беларусаў і іх праблемы. Зацікавілася намі і замежная прэса.

Можна паставіць тэзіс, што за ўвесь пасляваенны перыяд мы не праявіліся так выразна ў Польшчы, як дзякуючы выбарчай кампаніі. Паводле анкет, праведзеных сярод насельніцтва краіны, акцэптацыя эвентуальнага беларускага пасла ўзрасла з 23% (паводле анкеты, праведзенай раней сярод студэнтаў) да 51%. Набытым грамадска-палітычным капіталам трэба будзе разумна карыстацца.

За галасы выбаршчыкаў, аднак, трэба было змагацца ў вёсках і мястэчках. У нашага выбарчага камітэта не хапіла на гэта сілы. Надта многа энергіі і арганізацыі транспарту вымагаў збор подпісаў. Камітэт проста выдыхаўся. Змог па-сапраўднаму мабілізавацца толькі выбарчы штаб Васіля Ляшчынскага, шматгадовага дырэктара найбольшай беларускай школы. Мо таму, што толькі ён не збіраў подпісы? Разам з калектывам „Маланка" Сяргея Лукашука яны правялі сапраўды сучасную кампанію, арганізуючы шэраг схода-канцэртаў у вёсках Бельшчыны і Гайнаўшчыны. Разумна таксама была ім выкарыстана пазавыбарчая праграма беларускага радыё. Супольна з В. Ляшчынскім сваю кампанію вёў Ян Чыквін.

Дзеля вядзення ўласнай кампаніі мабілізаваліся і таксама надрукавалі, у палове кастрычніка, свае плакаты Пятро Крук і Пятро Багроўскі. Абодва выкарыстоўвалі ўласныя сродкі транспарту. Актыўна працавалі ў карысць усіх кандыдатаў Я. Альховік, Ю. Каліна, П. Юшчук, А. Максімюк,

( Працяг на стар. 7 )



## Свойскія малюнкі



„Настае зіма".
*Мал. У. Петрука*

******************************************************************

# НАШЫ КАРАНІ

Равеснік старажытнага Полацка, магутны Смаленск — старадаўні горад беларускага племені крывічоў — славіўся сваёй веліччу і заможнасцю. Ён рана стаў сталіцай вялікага і моцнага Смаленскага княства. Разрастаўся і багацеў горад не толькі дзякуючы працавітасці рамеснікаў і сялян, але і спрытнасці купцоў. На абшары, дзе прасціралася Смаленская Зямля, бяруць пачатак вялікія рэкі: Волга, Днепр, Дзвіна, Ловаць. Па іх плылі ў блізкія і далёкія гарады і краіны смаленскія купцы, імі прыбывалі ў Смаленск „госці". „Гасцямі" ж тады называлі чужаземных купцоў. У Смаленск яны прыплывалі па Волзе з краінаў Сярэдняй Азіі, па Дняпры — з берагоў Чорнага мора і Візантыі, па Дзвіне і Ловаці — з Заходняе Еўропы. Прыязджалі таксама „гасцінцамі", гэта значыць шляхамі, па якіх ездзяць чужаземныя купцы — з Польшчы, Нямеччыны, Венгрыі і другіх краінаў. На смаленскіх кірмашах можна было набыць тавары з розных бакоў свету, а на вуліцах часта чуліся чужаземныя мовы.

У выніку стараннаў князёў і будаўнікоў Смаленск акружалі магутныя абарончыя сцены і вежы. У ім красаваліся прыгожыя цэрквы, узвышаліся княжацкія харомы, купецкія дамы. Штораніцы многа малых смалян спяшалася ў манастырскія школкі і пільна вучылася чытаць, пісаць, рахаваць, бо без таго ні купцом, ні рамеснікам стаць аніяк нельга.

Хадзіў у такую ж школу хлопчык па імю Клімент, або, як звычайна кажуць, Клім. Сярод сваіх аднагодкаў ён вылучаўся набожнасцю, пільнасцю ў навуцы і замілаваннем да чытання і роздумаў над прачытаным. Калі падрос, стаў даганяць настаўнікам-манахам у навучанні сваіх меншых сяброў. Упадабаў манашаскае жыццё-подзвіг для Бога і працу для пашырэння асветы сярод сваіх суродзічаў. Заглыбляўся ў вывучэнне Свяшчэннага Пісання і іншых багаслоўскіх кніг, а таксама твораў старажытных свецкіх аўтараў і свае думкі, разважанні ды спасцярогі выказваў не толькі ў размовах і пропаведзях, але таксама на пісьме, у багаслоўскіх творах. Падпісваўся ён „Клімент Смаляціч", гэта значыць — Клімент са Смаленска.

Смаляціч у пропаведзях і творах заклікаў людзей да працавітага жыцця, сціплых паводзінаў і сваёй асобай даваў прыклад іншым. „Замест дамоў, і вёсак, і пасекаў, і поля, нявольнікаў і парабкаў — у мяне чатыры локці зямлі на магілу сабе", — пісаў. Ён заахвочваў людзей вучыцца і заглыбляцца ў роздумы, каб

( Працяг на стар. 7 )

******************************************************************

# МАКСІМ БАГДАНОВІЧ-
## ЛІТАРАТУРНЫ КРЫТЫК І ПУБЛІЦЫСТ

Чацверты перыяд у гісторыі беларускага Адраджэння пачынаецца з 1905 г., які па думцы Багдановіча, „з'яўляецца вехай, адзначаючай пункт пераломy ў гісторыі беларускага адраджэння". З гэтага моманту беларускі нацыянальна-культурны рух пашыраецца, робіцца нацыянальным, народным, выходзіць па-за межы інтэлігенцыі. З'явілася пэўная патрэба звярнуцца да беларускай мовы, бо „пісаць для (...) масавых чытачоў трэба было перш за ўсё проста і зразумела". З гэтым звязвае Багдановіч выданні Беларускай сацыялістычнай грамады, друкаванне па-беларуску адозваў, развіццё белетрыстыкі з выразным палітычным характарам. Адначасна з агульнапалітычным і нацыянальным пад'ёмам, публіцыст звяртае ўвагу на выразны рух у беларускім прыгожым пісьменніцтве, асабліва ў галіне паэтычнай творчасці, на агульным фоне якой, паводле яго, звяртае на сябе ўвагу постаць Янкі Купалы — „пісьменніка тысячных вартасцяў, хоць і адзначаючагася некалькі аднабаковым характарам". Рытмічнасць — вось, на думку Багдановіча, галоўная, над усім пануючая, асаблівасць Купалы. Янка Купала „не толькі „божай міласцю паэт", — сцвярджае крытык, — але таксама „умелы майстар свайго дзела, пашыраючы круг сваіх тэм, форм і стыляў".

Прыхільна Максім Багдановіч выказваўся і аб іншым паэце старэйшага пакалення, якім быў Якуб Колас.

З прадстаўнікоў малодшага пакалення ён высоўвае на першае месца Алеся Гаруна. Успамінае Ядвігіна Ш., Змітрака Бядулю, Максіма Гарэцкага і многіх іншых. „(...) Толькі дзякуючы іх вытрываласці і самасцвярджэнню, — піша ў заканчэнні, — беларускі рух, знайшоўшы цяпер цвёрдую апору ў шырокіх кадрах народнай інтэлігенцыі, вытрымаў увесь цяжар першых гадоў свайго існавання, прыдбаў свой цяперашні ідэйны воблік і невялікімі, але глыбокімі, нясціраючыміся літарамі выразаў сваё імя на скрыжалях сусветнага прагрэсу" (пераклад мой, — Я.Т.).

Праф. Уладзімір Пічэта ўжо ў 1922 г., выказваючы свой погляд на прадстаўленую Багдановічам гісторыю беларускага адраджэння, пісаў: „Нельга не згадзіцца з тым, што асноўныя вехі гэтага прагрэсу прадстаўленыя правільна, і будучаму гісторыку прыдзецца з імі лічыцца. Канешне асобныя палажэнні й суджэнні аўтара даволі суб'ектыўныя й выклікаюць нязгоду, але агульны нарыс беларускага нацыянальна-культурнага адраджэння прадстаўлены (...) зусім выразна. Яго артыкулы былі напісаны для ўсіх сумняваўшыхся ў мэце й жыццёвасці беларускага нацыянальна-культурнага жыцця".

Як пацвярджэнне слоў прафесара, хай будзе факт выкарыстання чэшскім славістам Янам Махалам украінскага выдання артыкула Багдановіча падчас пісання „Гісторыі славянскіх літаратур". Артыкул „Белорусское возрождение" з'явіўся для яго багатай крыніцай беларусазнаўчых вестак.

Характар sensu stricto грамадска-палітычны маюць артыкулы, якія будзем зараз разглядаць. Амаль ва ўсіх ставіцца пытанне існавання беларусаў як нацыі, іх праблемаў рэлігійных, культурных, моўных, абумоўленых уплывам двух суседніх вялікіх народаў — палякаў і рускіх.

# ТОЕСНАСЦЬ ПОЛЯКА

*-працяг*

**У папярэднім адрэзку:** у палове красавіка гэтага года ў беластоцкім студэнцкім асяроддзі з'явілася пара круцялёў — хлопец (гадоў 25) і дзяўчына (гадоў пад 20), гэтых двое пазнаёмілася з групкай студэнтаў у адным з інтэрнатаў ды тыдзень часу карысталася гасцінай гэтых жа студэнтаў, пасля тыдня парка знікла, надуўшы студэнтаў на пару мільёнаў.

*Філасофія ашуканства — яна заўсёды адна і тая ж. Спярша ашуканец здабывае давер у свайго аб'екта, а пазней — робіць з ім, што хоча. Гэтак яно было і ў нашай аповесці. Паслухайце!*

**Расказвае Кася Р.** (студэнтка).

Было гэта недзе ў сярэдзіне красавіка, памятаю, яшчэ перад абедам вельмі разбалелася ў мяне галава. Я ляжала ў пасцелі — Дароты не было ў пакоі (Дарота — сужыхарка Касі з акадэміка, расказвала ў папярэднім адрэзку, — А.М.). Праз нейкі час прыйшла Дарота з Эвай (так, так, з тою Эвай, што на здымку) — тады менавіта я з ёю пазнаёмілася. Села насупраць мяне, я паднялася ў пасцелі. Завялі размову — аказалася, што Эва прыехала ў Беласток са сваім хлопцам Збышкам Полякам. Эва сказала, што яму 30 гадоў. Я вельмі ж здзівілася, што паміж імі такая розніца ўзросту — Эва казала, што ёй 19. Ну, але нічога, Эва рабіла самае лепшае ўражанне: мілая, шчырая, такая, з якою можаш пагаварыць. Сказала мне, што пойдзе замуж за свайго хлопца. Для мяне было гэта крыху дзіўнае з увагі на тую розніцу ўзросту ды з увагі на факт, што Эва яшчэ вучылася ў тэхнікуме. У часе нашай першай размовы мусіла я наракаць на галаўны боль, бо Эва сказала, што яе хлопец можа гэты боль вылечыць. Тады я пачала цікавіцца, што гэта за ён. Эва сказала, што ён біяэнергатэрапеўт. Гэтага было для мяне дастаткова. Я запытала, ці яе хлопец калі-кольвечы чуў пра *тай-хі* — гэта такі кітайскі спосаб медытацыі. Эва адказала, што магчыма. Я, калі пачула, што яшчэ нехта цікавіцца *тай-хі*, давай распытваць толькі пра таго хлопца. Эва сказала, што прышле Поляка да мяне, каб пазбавіў мяне ад гэтага болю. Ну, і пайшла па яго, а мы, значыць Дарота і я, давай парадкаваць у пакоі...

Калі ўвайшоў, я знаходзілася за дзвярыма, дык час нейкі ён мяне не бачыў, а я яго так. Я палажыла, што мела ў руках і мы прывіталіся. Запытаў адразу пра мой боль. Селі, пачалі мы гутарыць — увесь час прыглядалася нам Дарота. Сказаў мне, каб я легла, ды распачаў даследаванне.

*Як выглядаў той досвед?*

Поляк трымаў рукі над маёю галавою ды засяроджваўся. Праз нейкі час запытаў, ці нешта змянілася ў маім самаадчуванні, ці мінуў боль. Я сказала, што не. Тады ўзяў маю руку ды пачаў нешта над ёю рабіць маятнікам. Боль не праходзіў. Поляк пачаў мне тлумачыць, што я — асоба надзвычай замкнёная дык яму вельмі цяжка „дабрацца" да мяне. Сказаў, што прыйдзе яшчэ вечарам. Я з Даротай пайшла на заняткі. На занятках увесь час гаварылі мы з Даротай толькі пра Поляка ды расказвалі ўсім нашым знаёмым, якога файнага хлопца ведаем.

Вечарам па нейкай прычыне да другога сеанса не дайшло. Але прыйшла да мяне Эва, бо ў хлопцаў, дзе Эва і Поляк жылі, было страшэнна многа папяроснага дыму. Хлопцы з Полякам увесь час нешта варылі, елі, пілі піва ды курылі. Эва хацела нешта пачытаць ды ўзяла адну кніжку. Я здзівілася, што, маючы такога надзвычайнага хлопца, Эва чытае абы-якую літаратуру. Болей таго, як пазней я заўважыла, яна часта дапытвалася ў Поляка пра цяжкія для яе словы.

*Калі адбыўся другі сеанс?*

Быў адзін такі вечар, калі падрыхтавалі мы супольную вячэру ў нашым пакоі. Ужо ў часе вячэры пачалі гаварыць пра перасяленне душаў, пра Бога і гэтак далей. Поляк з памяці цытаваў думкі філасофаў. Я запытала, чаму ён не працуе па сваёй прафесіі, значыць, археолагам. Адказаў, што калі б знайшоўся нейкі спонсар, дык з ахвотай паехаў бы на Міжземнае мора рабіць выкапкі. У часе нашай гутаркі закранулі мы і тэму гіпнозу, бо Поляк сказаў, што ён умее ўвесці чалавека ў гіпнатычны сон. Я, з цікавасці, згадзілася. Пачаў мне гаварыць, каб я не нервавалася, што ў мяне заплюшчваюцца вочы, ды таму падобнае. Я страшэнна намагалася засяродзіцца, але перашкаджаў мне шум, які даходзіў з вуліцы, ды шэлест, калі Вольга (гэта трэцяя сужыхарка) перакідала газеты. Я вельмі хацела ўвайсці ў гіпнатычны сон, але нічога не атрымалася. Можа гэта і лепей, заўважыў Поляк, некаторых людзей вельмі цяжка пасля разбудзіць. Я ўдзельнічаў у адным такім сеансе, расказваў нам Поляк. Прысутныя былі: гіпнатызёр, дзяўчына, лекар і ксёндз. Гэтая дзяўчына ў гіпнатычным сне была сведкам Хрыстовых мукаў ды так моцна гэтае перажывала, што доўга-доўга не маглі яе разбудзіць.

*А якую ролю адыграў ксёндз?*

Ксёндз страціў веру. Ведаеш, калі пазней высветлілася, хто яны, я страшэнна шкадавала, што не выпытала гэтага Поляка пра *тай-хі* — адразу было б вядома, што ў гэтым ён зялёны...

Я страшэнна знервавалася, калі аказалася, што ўсё гэта было ашуканствам. Я стала тады згадваць усё тое, што здарылася, каб знайсці нешта, што магло б навесці мяне на след гэтай пары. І ведаеш, успомнілася мне адна такая акалічнасць. Здаецца, што Эва тады прабалбаталася... (Тут Кася расказала мне пра адну дэталь, якая сапраўды можа высветліць тоеснасць Поляка і ягонай сяброўкі, але пра гэта чытайце ў наступным адрэзку).

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

## ЯК Я СТАЎ КАНДЫДАТАМ У ПАСЛЫ

У Ольштыне жыву я ўжо чацверты год. Тут ёсць праваслаўная царква і шмат беларусаў, якія не заўсёды прызнаюцца да сваёй нацыі.

Калі пачалася выбарчая кампанія і паасобныя камітэты сталі састаўляць спіскі сваіх кандыдатаў і збіраць подпісы ў іх падтрымку, прыйшоў да мяне настаяцель ольштынскага прыхода а. Аляксандр Шаломаў і запрапанаваў: „Андрэй, будзеш кандыдатам у Сейм, запішы свае персанальныя дадзеныя." Айцец Аляксандр вельмі спяшаўся, бо студэнты-актывісты Беларускага выбарчага камітэта паехалі далей, у Гданьск, пакінуўшы яму аформіць усе выбарчыя справы ў ольштынскай акрузе. Яму трэба было яшчэ правесці размовы з іншымі кандыдатамі: Тамарай Болдак-Яноўскай і Юрыем Матавіцкім.

Прыйшоў дзень выбараў. Аб тым, што можна галасаваць на спісак 48, можна было даведацца з афіцыйных аб'яў. Для лепшай прапаганды адбіў я ксераксным спосабам лісточкі з прозвішчамі кандыдатаў БВК і паразвешваў па горадзе. Аднак хвалявала мяне асноўнае пытанне: няўжо ніхто не аддасць свой голас на нашых кандыдатаў?

Пасля выбараў пайшоў я ў Ваяводскую выбарчую камісію. На калідоры віселі вынікі ўсіх 26 палітычных груповак. У акрузе н-р 23 (Ольштынскае і Эльблонгскае ваяводствы) перамог Саюз левых дэмакратаў, далей былі Дэмакратычная унія, ПСЛ, ПЦ. Галасавала 39,5 % выбаршчыкаў.

Наш спісак атрымаў 347 галасоў: Андрэй Гаўрылюк — 180, Тамара Болдак-Яноўская — 48, Антон Яноўскі — 98 і Юры Матавіцкі — 21. Думаю, што мы атрымалі не так ужо і мала галасоў. Гэта выклікала ў мяне намер стварыць у Ольштыне гурток БГКТ, а пакуль што дамовіўся з рэдакцыяй „Паўночнага дзённіка" напісаць ім пра беларусаў на Варміі і Мазурах.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

***************************************************************************************************

У сваіх выданнях Багдановіч пастаянна імкнецца пераканаць і чужынцаў, і саміх беларусаў, што беларускі народ не з'яўляецца варыянтам ні польскага, ні велікарускага народаў. „Гэта таму, што рускіх народаў тры. Усе яны аднаго кораню, але шмат часу жылі паасобку, і так сталася з іх тры розных рускіх народы; у кожнага — сваё найменне, свая гаворка, свае звычаі, свае песні, свая вопратка. (...) Мы — трэці народ рускага кораню, завёмся б е л а р у с а м і, і старонка наша завецца Б е л а р у с ь. Ёсць паміж нас праваслаўныя, ёсць і каталікі, але народ з нас адзін, бо ўва ўсіх адна гаворка, адны звычаі, адны песні, адна вопратка, адзін лад жыцця" („Хто мы такія? Ліст да простых людзей").

Гэткім спосабам публіцыст хацеў заахвоціць саміх беларусаў — галоўным чынам простых людзей (так як загаловак аб гэтым інфармуе: „Хто мы такія? Ліст да простых людзей") — да нацыянальнага самавызначэння. Напамінаў багатае мінулае старонкі: „Мы — вялікі народ, нас дванаццаць мільёнаў, шырока раскінуліся мы і спрадвеку жывём тут. Гэта наш край, наша старонка. Калісьці ў нас было сваё гасударства, скрозь чутно было нашу беларускую гаворку. У ёй пісалі законы, разбіралі справы па судах, вучылі ў школах, друкавалі кнігі, спраўлялі набажэнствы ў царквах ды касцёлах".

Алег Лойка закідае Багдановічу (так як і Багушэвічу) ідэалізацыю мінулага Беларусі, але вынікала гэта з тых гістарыязафічных канцэпцый, якія склаліся ў гістарычнай і літаратуразнаўчай савецкай навуцы ў перыяд постсталінізму. Не вельмі ж дакладна каменціруе А. Лойка заклікі Багдановіча не пакідаць „свае гаворкі, сваіх песняў, сваіх звычаяў", „не адракацца, не забываць, не кідаць на глум". Праўда, што гэта быў час, „(...) калі Беларусь таптали боты кайзераўскіх войск (...)", але ж думаецца, што малады публіцыст меў на думцы не іх, а суседзяў. Як пацвярджэнне, хай будзе наступная цытата з ліста М. Багдановіча „Хто мы такія?": „Жывём мы паміж палякаў і велікарусаў, народаў моцных, і маем шмат крыўды ад іх. Бо ёсць велікарусы, што намагаюцца, каб мы забыліся на ўсё сваё, беларускае, выракліся яго ды звярнуліся ў велікарусаў, гаварылі б і жылі па-іхняму. Ёсць і палякі, каторыя таксама хочуць змяніць нас на свой капыл, каб і мы сталіся палякамі".

Некаторых, якія поўнасцю сумняваюцца ў тым, што беларусы асобная нацыя, якія лічаць, што існуюць толькі спробы стварэння такой нацыі, цынічна прапануюць, напр. як гэта зрабіў нейкі г. Курнатоўскі (у чарговых артыкулах прыводзіць прозвішчы іншых непрыхільнікаў Беларусі), палюбоўны раздзел беларусаў: „два мільёны беларусаў-каталікоў перадаць Польшчы з мэтай іх паланізацыі, а астатнюю частку аддаць на русіфікацыю", бязлітасна крытыкуе. І хаця г. Курнатоўскі, як падкрэслівае Багдановіч, называе сябе „гуманістам", у ніякім выпадку ім не з'яўляецца. Не можа ім быць чалавек, які хоча затармазіць развіццё суседняга народа, які вядзе гандаль беларусамі.

Незразумелым для Багдановіча з'яўляецца факт, што нейкі Казлоўскі, ствараючы карту польскага насельніцтва, друкаваную ў часопісе „Народы і области России", імкнецца пераканаць, што край гэты называюць Беларуссю памылкова. Прынамсі такое ўражанне робяць лічбы польскага быццам бы насельніцтва, прыведзеныя ім: „(...) у Віленскім, Лідскім і Ашмянскім уездах Віленскай губерні лік палякаў паказаны ад 50 да 100 %, у Дзісненскім, Віленскім і Свянцянскім — ад 30 да 50 %, у Мінскім — таксама, у Дрысенскім (Віцебская губ.) — ад 20 да 30 % і г.д.".

А „граніцы беларускага народа параўнальна даволі выразныя" — так заяўляе Багдановіч ва ўступе чарговага артыкула „Беларусы", і далей акрэслівае іх ахоп: беларускі народ „засяляе ўсю Магілёўскую губерню, усю Мінскую, за выключэннем Мазырскага уезду, Віцебскую, акрамя яе паўночна-заходняга вугла, Віленскую, акрамя яе заходняй часткі, і, урэшце, паўночную палову Гродзенскай губ. Апрача таго, беларусы складаюць большасць у сумежных уездах Смаленскай губ., паўночнай часткі Чарнігаўскай губ., Аўгустоўскім уездзе Сувальскай губ., Новаалександроўскім уездзе Ковенскай губ. і інш.".

У цэлым артыкул „Беларусы", — як піша праф. Іван Замоцін, — з'яўляецца пераапрацоўкай артыкула „Белорусское возрождение". Часам гэтая пераапрацоўка зроблена ў бок пашыранага этнаграфічнага нарыса аб беларусах наогул; канец жа артыкула, наадварот, з'яўляецца скарачэннем „Белорусского возрождения". Асабліва выразны, а нават рознагалосны канец гэтай працы. Тут Багдановіч сцвярджае, што аднакласавасць беларускага народа выратавала беларускі рух пачатку XX ст. „ад паталагічных з'яў, гэтак нярэдкіх у нацыяналізме многакласавых народаў".

*(Заканчэнне будзе)*

**ЯНІНА ТРАЧУК**

# Іх папараць-кветка або У амерыканскіх беларусаў

**27. У БІБЛІЯТЭЦЫ З ЗОРАЙ КІПЕЛЬ.**

Наведванне Нью-йоркскай публічнай бібліятэкі асацыіруецца мне сёння з нейкай эстафетай, дзе палачкай была я. Памятаю, што Юля Андрусішына папрасіла спадара Антона Шукелайця, каб завёў мяне „да Зоры Кіпель". Спадар Антон ахвотна згадзіўся. Ён падвёў мяне да манументальнага будынку цудоўнай прыгажосці — да бібліятэкі. На шырокіх сходах ужо чакаў нас д-р Вітаўт Кіпель, да выхаду на пенсію — намеснік загадчыка навуковага аддзела Нью-йоркскай публічнай бібліятэкі, а прыватна — муж Зоры і бацька дваіх абаяльных дзяцей: Алесі Кіпель, якая працуе адвакатам у Вашынгтоне, і Юркі Кіпеля, нью-йоркскага лекара-педыятра і ад верасня мінулага года старшыні Арганізацыі беларуска-амерыканскай моладзі.

Са спадаром Вітаўтам Кіпелем можна было смела хадзіць па бібліятэцы і выйсці з яе без ніякай праверкі. „Да Зоры Кіпель" абазначала — у славянскі аддзел, да намесніка загадчыка гэтага аддзела. Тут спадар Вітаўт і перадаў мяне жонцы.

Спадарыня Зора надта спяшалася, бо мела адбыцца нейкая нарада, але для мяне яшчэ крыху часу знайшла.

Нью-йоркская публічная бібліятэка размясцілася на 5-ай авеню — 42-ой стрыт. Пабудавалі яе ў канцы мінулага стагоддзя. Знайшліся тры багатыя фундатары кніжак, якія запрапанавалі, што без грошай перададуць іх гораду, а нават яшчэ дададуць нямала мільёнаў пры ўмове, аднак, што горад пабудуе бібліятэку і ўсе ахвотныя будуць карыстацца кніжкамі бясплатна. Горад Нью-Йорк ад сябе прызначыў вялізныя сумы і пабудаваў будынак бібліятэкі ў 11 паверхаў. Сёння цяжка ўявіць сабе, што бібліятэка стаіць ужо сто гадоў. Яна захапляе прыгажосцю і свежасцю сваіх мармураў, супер-сучаснай тэхнікай, вялізнымі чытальнымі заламі з камп'ютэрамі — ёсць чытальныя залы, у якіх аднаразова можа змясціцца нават 800 чалавек.

У славянскім аддзеле — найбольш істотны для нас беларускі фонд. Праўда, беларускія аддзелы ёсць і ў бібліятэках Кліўленда, Чыкага, Лос-Анжэлеса, Дэтройта, а таксама ў іншых бібліятэках Нью-Йорка (у Калумбійскім універсітэце, у Морганаўскай бібліятэцы і г.д.), але тут, у Нью-йоркскай публічнай бібліятэцы, сабрана іх найбольш. Прыемна пабываць на гэтай беларускай выспачцы ў такой велізарнай і мадэрнай заакіянскай бібліятэцы.

Зора Кіпель з гонарам паказвае мне іхнія зборы. Пра сябе не надта хоча гаварыць. Ну што ж, працуе тут ужо 8 гадоў, універсітэцкую адукацыю ў галіне хіміі атрымала ў Бельгіі, пасля штудзіравала гісторыю і параўнаўчыя літаратуры ў Нью-Джэрсі, працавала ў бібліятэцы Калумбійскага універсітэта...

Спадарыня Зора расказвае, што кнігаабмен іх бібліятэкі з АН БССР пачаўся яшчэ ў 20-ых гадах; вельмі прычыніўся да гэтага Мікола Улашчык (які працаваў у АН БССР). У гэтай



*Спадарыня Зора Кіпель ( стаіць справа ) і яе муж д-р Вітаўт Кіпель ( сядзіць злева ).*

***********************************************************************************

# Помнікі культуры

**( Працяг са стар. 1 )**

сёлах: Андрыянкі Вялікія, Зарэчча, Кошкі, Навасельшчына, Агароднікі, Жалоцькі (даўней Золочкі). Яе нешматлікасць выклікана непасрэдным суседствам з вёскамі дробнай рымска-каталіцкай шляхты. З таго часу ведаем імя і прозвішча настаяцеля царквы. Быў ім а. Васіль Грыневіч.

У пачатку XIX ст. царква ў Андрыянках прадстаўляла сабою ўжо старую ды абнішчаную пабудову. У 1810 г. візітатар царквы а. Антон Сасноўскі з Кляшчэль запісаў: „Cerkiew bardzo zdezelowana ma się do upadku". Забавязаў тут тадышняга настаяцеля а. Міхала Тымінскага, каб выстараўся ў „kollatora" (апекуна) царквы графа Патоцкага сродкаў на неабходны рамонт. Паспяховы рамонт быў праведзены каля 1814 г. Аднаўленая ды перабудаваная царква атрымала цяпер план васьмікутніка. Гэты перыяд прынёс таксама заснаванне ў 1811 г. новых могілак у Андрыянках і суседніх Жалоцьках.

З 30-тых гадоў XIX ст. пачынаецца паступовае ачышчанне яшчэ уніяцкай тады царквы ў Андрыянках з розных лацінскіх „навінак" ва ўнутраным убранстве. У 1837 г. коштам прыхаджан быў уведзены іканастас. У алтары стаў правільны прастол і ахвяравальнік. Былі ліквідаваны бакавыя алтары. У тым жа годзе прыход налічваў 565 асобаў у 8-мі сёлах.

У час вяртання ў юрысдыкцыю Праваслаўнай царквы служыць тут а. Дымітр Харсэвіч. Прыход ахоплівае вёскі: Андрыянкі, Далубова, Жалоцькі, Смалюгі, Секлюкі, Замянова, Агароднікі (сёння не існуюць), Выганова, Сольнікі, Галёнкі. У 1884 г. у Андрыянках была заснавана аднакласная царкоўная школа, у 1887 перайменаваная на царкоўна-прыхадскую. У 1880 г. па ініцыятыве а. Мікалая Скабалановіча быў праведзены капітальны рамонт старога храма. На жаль, не суджана было яму пасля доўга служыць верным.

Праз 15 гадоў, улетку 1895 г. Крыжаўздзвіжанская царква, заснаваная каля 1743 г., згарэла ў час навальніцы. У полымі спапяліліся многа старажытных ікон, багаслужэбных прадметаў і кніг.

Адданыя царкве прыхаджане ў хуткім часе пабудавалі на могілках царкоўку св. Ануфрыя. Яе высвячалі ў лютым 1896 г. Прыход налічваў тады ўжо 743 асобы, пры царкве існавала брацтва ды 6 царкоўных школ. На той час у Андрыянках пражывала 502 асобы ў 80-ці дамах (не лічачы маёнтку).

Маленькая царкоўка на могілках станавілася замалой для ўзрастаючай колькасці верных, таму ў 1912 — 1914 гадах была праведзена пабудова новай, мураванай царквы (на гістарычным месцы ў вёсцы). Завяршэнне прац над унутраным убранствам спыніла I сусветная вайна. Большасць прыхаджан у 1915 г. падалася ў глыб Украіны і Расіі. „Бежанцы", што вярталіся назад у 1920-1922 гадах, засталі ў родным сяле запусцелую і зганьбаваную Уздзвіжанскую царкву. Могільнікавая царква св. Ануфрыя была за час „бежанства" разабрана і перанесена на рымска-каталіцкія могілкі ў Дзядковіцах.

У міжваенны перыяд не ўдалося адкрыць у Андрыянках самастойнага прыхода. Андрыянчане належылі да філіі ў Боцьках. У перыяд II нямецкай акупацыі прыход зноў адкрыўся і ў 1943 г. налічваў 716 асоб.

Пасля II сусветнай вайны наваколле Андрыянак было месцам актыўных дзеянняў атрадаў АК ды іншых парамілітарных груповак. Беларускія жыхары Андрыянак былі пад уплывам моцнага фізічнага і маральнага прэсігну з іх боку. Частка жыхароў была вымушана пакінуць сваю зямлю і „добраахвотна" перасяліцца ў Савецкі Саюз. На іх месца пасяліліся імігранты з СССР ды людзі з навакольных польскіх вёсак. Андрыянкі паступова пачалі траціць свой беларускі характар.

Сёння не існуе тут праваслаўны прыход. Царква з'яўляецца філіяльным храмам Боцькаўскага прыхода. Андрыянкі цяпер гэта вёска напалову праваслаўная — напалову каталіцкая. Да найбліжэйшых, суцэльна праваслаўных вёсак, адсюль каля 10 км (Сабятына, Сасіны, Дубна). Сярэдняе і маладое пакаленне тутэйшых беларусаў найчасцей гаворыць між сабою па-польску. Мова адыходзіць, застаюцца назвы ўрочышч, што сведчаць пра ўсходнеславянскае паходжанне насельнікаў гэтых ваколіц. Сустракаем тут назвы: Загародніца, Загумэне, Міжыгрушы, Вэрбово, Рудаўка, Сэрвэта, Ясэнькі, Біліе, Купіна.

Найбольш урачыста святкуецца ў Андрыянках свята Уздзвіжання Крыжа Гасподняга. Калі задумаемся, мае яно тут свой асаблівы сэнс. Бо як Крыж Хрыстовы быў паказаны людзям пасля яго адкрыцця, так і Праваслаўе на гэтай зямлі ўвесь час падымаецца, сведчыць усім людзям пра сваю неўміручасць.

**М.С. і Р.С**

бібліятэцы — адзінай у Амерыцы — захоўваецца поўны збор „Летапісу беларускага друку” (ад 1925 года), у даны момант ёсць іх нешта каля 80-ці тамоў.

У беларускім аддзеле ёсць Беларуская савецкая энцыклапедыя (кароткая — таксама), Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі, Энцыклапедыя прыроды Беларусі, энцыклапедычныя даведнікі Скарыны, Купалы і іншыя выданні.

У славянскім аддзеле захоўваюцца ўсе 3 тамы „Беларусаў” Карскага.

Але асабліва прэстыжнай справай беларускага аддзела і ўсіх амерыканскіх беларусаў з’яўляюцца старанна захаваныя там 4 старонкі з „Бібліі” Скарыны, з першай кнігі „Царстваў”, з 1518 года.

Трэба адзначыць, што ў беларускім аддзеле Нью-йоркскай публічнай бібліятэкі сабраны таксама ўсе нашы, беластоцкія выданні, пра якія рэгулярна дбае бібліятэка.

Адным словам, робіцца тут цеснавата, заўважае Зора Кіпель. Аднак жа, для кніг тут створаны вельмі спрыяльныя варункі. Мікраклімат, правеўныя памяшканні, усе кніжкі апраўлены ў спецыяльныя цвёрдыя вокладкі. Для беларускіх кніжак ёсць тут спецыяльны беларускі знак: *QM — для манаграфій і *QMA — для серыйных выданняў.

Беларускі інстытут навукі .і мастацтва, дырэктарам якога з’яўляецца д-р Вітаўт Кіпель, на працягу многіх гадоў выдаваў і выдае надалей нямала твораў і цэлых зборнікаў беларускіх эміграцыйных пісьменнікаў. Спадарыня Зора Кіпель бярэ ў гэтай працы, дзякуючы сваім кваліфікацыям бібліятэказнаўцы, надта дзейсны ўдзел — апрацоўвае бібліяграфію творчасці гэтых пісьменнікаў і літаратуры пра іх.

Апрача таго, шмат піша для газеты „Беларус”, якая грамадскім чынам выдаецца ў Нью-Йорку.

І таму, калі летам гэтага года мы сустрэліся ў Беластоку і я даведалася, што спадарыня Зора Кіпель выйшла на пенсію, дык была амаль упэўнена, што нарэшце яна зможа прысвяціць сябе ўнуку, які нарадзіўся нядаўна ў сына Юркі.

— Што вы! — амаль абразілася яна. — Нарэшце я змагу поўнасцю аддацца беларускай дзейнасці. А ўнука выхаваюць яго бацькі.

* * *

З д-рам Вітаўтам Кіпелем сыходзім уніз. Без праверкі ён перадае мяне спадару Антону Шукелайцю, які ўжо чакае. Вяртаемся не спяшаючыся. Кажу, што чула, быццам у гэтай бібліятэцы ёсць найбагацейшыя ў свеце зборы парнаграфічнай літаратуры.

— А во, глядзі, — кажа дзядзька Антон, паказваючы на адной з недалёкіх вуліц пальцам на „секс-шоп”, — і тут гэтага паскудства поўна.

Будынак двухпавярховы. Зацягваю дзядзьку Антона ў сярэдзіну. Нічога асаблівага. Найбольш кідаюцца ў вочы мужчынскія члены, выстаўленыя на ўзор — самых розных размераў і кшталтаў, а нават чорны, а да таго гіпербалічнай велічыні. І мноства відэакасетаў з парнаграфічнымі фільмамі.

Будынак усяго двухпавярховы, але даволі абшырны. Здаецца, наверсе можна было б адразу рэалізаваць свае скрытыя пажаданні. Прыцягвае ўвагу свабодна, але элегантна паводзячая сябе прастытутка, якая стаіць на вуліцы каля будынку, акружаная некалькімі маладымі мужчынамі (ці не з тае ж прафесіі?..). Ад ног да галавы апранута ў чорную скуру — уключна з элегантным капялюшыкам.

— Хутка ўсё гэта паскудства перанясуць з цэнтра на перыферыі кудысьці. Ужо ў кастрычніку і 23-га секс-канала па тэлебачанні, якім ад раніцы да вечара ўпайвалася моладзь, таксама мае не быць, — заўважае спадар Антон і запрашае мяне на каву.

*(Працяг будзе.)*

**АДА ЧАЧУГА**

**Фота аўтара**

************************************************

## НАШЫ КАРАНІ

**( Працяг са стар. 4 )**

спасцігнуць, як на свеце ўсё „існуе, кіруецца і ўдасканальваецца воляй Божай”.

У адным з летапісаў гаворыцца, што Клімент Смаляціч „быў такім адукаваным і мудрым чалавекам, якога не бывала на Русі; ён быў начытаны, меў настаўніцкі талент, валодаў вялікімі ведамі, склаў і запісаў многа твораў”. На жаль, да нашага часу дайшоў толькі адзін яго твор — „Пасланне”, гэта значыць — ліст.

Прападобнага Клімента Смаляціча ў 1147 годзе епіскапы паставілі ў мітрапаліта кіеўскага і ўсяе Русі, і ён шмат гадоў узначальваў Праваслаўную царкву ва Усходняй славяншчыне, значыць, таксама і на нашых землях.

Гады нараджэння і смерці прападобнага Клімента Смаляціча невядомыя. Ён быў сучаснікам Ефрасінні Полацкае і Кірылы Тураўскага. Глыбокая набожнасць і адукаванасць гэтых трох выдатных беларусаў пераканаўча сведчыць пра багатае рэлігійнае жыццё, высокі ўзровень асветы і культуры на беларускіх землях ужо каля 800 гадоў таму назад, у XII стагоддзі.

**МІКОЛА ГАЙДУК**

## З ДРУКУ

**Мікола Давідзюк: „Палітыка застаецца за дзвярыма майстэрні”.**

*— Не магу не выказаць задавальнення і здзіўлення, Мікола, Вашай добрай беларускай мовай. Хаця шмат чула пра тое, што Беласточчына, адкуль Вы родам, гэта астравок беларускасці на Польшчы, і ўсё ж...*

— Дзякуй, але крыху Вас расчарую наконт Беласточчыны: гэта ўжо міф. Беларускасць яшчэ неяк трымаецца на вёсках на ўзроўні фальклору, але па вялікаму рахунку... Праўда, ёсць яшчэ жменька дзівакоў, беларусаў-інтэлігентаў, якія робяць намаганні, каб захаваць свае карані, сваю беларускасць, адрадзіць былое. Але калі на Беларусі ёсць яшчэ такі шанц, то на Беласточчыне, лічу, гэтага ўжо не можа быць. Гэта бесперспектыўна, нават сярод інтэлігенцыі. Бо яна прыстасоўваецца да таго, што ёсць, каб лягчэй пражыць. Людзі з вышэйшай адукацыяй..., але іх маральны і інтэлектуальны ўзровень вельмі нізкі. Яны нават не разумеюць: што гэта — быць інтэлігентам...

**Фрагмент інтэрв’ю Маргарыты Старых з мастаком МІКОЛАМ ДАВІДЗЮКОМ з Лодзі,** змешчанага ў мінскай газеце „Добры вечар” (н-р 150) ад 12 лістапада 1991 г.

## ПОЛЮСЫ ВЫБАРЧЫХ ЭМОЦЫЙ

**( Працяг са стар. 4 )**

А. Мартынюк, М. Стэльмашук, Я. Мордань, А. Драль. Па ініцыятыве братоў Максімюкоў пад канец кампаніі паказаліся і мае плакаты. Паміж мерапрыемствамі БГКТ і выездамі, каб не патраціць цэнтральных тэле- і радыёперадач, на жаль, больш бачных у Польшчы, чым на Беласточчыне, мне ўдалося правесці ўсяго тры сходы і каля 20 выпадковых сустрэч проста на вуліцы, у краме, у клубе. А людзі сапраўды патрабавалі сустрэч і гутаркі.

Для прыкладу: у Рыбалах, дзе мы з Пятром Крукам правялі сход, атрымаліся наступныя вынікі: В. Цімашэвіч — 105, Яўген Чыквін — 90, В. Стахвюк — 57; у Рыбалах галасавалі іншыя вёскі, у якіх мы не былі. У Трасцянцы (мая родная вёска, дзе я таксама правёў сход), галасавала 7 вёсак. Вынікі: В. Стахвюк — 128, В. Цімашэвіч — 82, Яўген Чыквін — 27. У Гарадку, дзе ніводзін беларускі кандыдат не правёў сходу: В. Цімашэвіч — 1106, Яўген Чыквін — 198, В. Стахвюк — 73, У. Лукошык (беларускі дзеяч з Гарадка) — 52.

Трэба прызнаць, што ўсюды была відаць велізарная праца, праведзеная ў карысць В. Цімашэвіча, лідэра Саюза левых дэмакратаў. На кожным стэндзе, прыпынку, краме, клубе, малачарні віднеліся яго каляровыя плакаты. Проста адчуваліся структуры салідна арганізаванай палітычнай партыі. Яна вырашыла іграць на аднаго. Эфект — звыш 57 тысяч галасоў. У нас кожны іграў на сябе, ствараючы ўражанне канкурэнцыі. Хтосьці гэта пракаментаваў: дзіцячы садзік. Эфект: няпоўных 4500 галасоў.

Лідэр камітэта праваслаўных Яўген Чыквін запэўніў сабе ўвесь аўтарытэт Праваслаўнай царквы. Большасць святароў Беласточчыны заклікала галасаваць за яго, чым адступілася ад дэкларыванай апалітычнасці і роўнага трактавання праваслаўных вернікаў. Праўда, і ў іхнім камітэце не было еднасці. Мікола Рошчанка, кандыдат па рэкамендацыі Саюза ўкраінцаў у Польшчы, меў уласны салідны выбарчы штаб, які арганізаваў многа канцэртасходаў паміж Бугам і Нарвай, ды і заклеіў усю паўднёвую Беласточчыну сваім вялікагабарытным жоўтым плакатам. Супольныя намаганні іхняга камітэта далі 13 тысяч галасоў і адзін мандат.

Шкада толькі, што сам Яўген Чыквін не паўстрымаўся ад негатыўнай кампаніі супроць беларускіх кандыдатаў. У сваіх лістоўках абвінавачваў нас якраз у падзеле супольнасці праваслаўна-беларускага асяроддзя. Намякаў на блакаду нашага спіску з нямецкім, пэўна, каб напалохаць беларусаў і ўзяць іхнія галасы. У пятніцу перад выбарамі абедзве рэгіянальныя газеты адступілі месца для ягонага інтэрв’ю ў святочных нумарах, дзе, натуральна, змагаўся з намі. Нашы кандыдаты таксама не аставаліся Яўгену Чыквіну ў даўгу. Думаю, што ўсё гэта адцягнула ад нас нейкую тысячу — дзве выбаршчыкаў. Многія, у каго разбудзіліся сумненні, не галасавалі або далі голас В. Цімашэвічу.

Гэта можна было б зразумець: змаганне паміж двума камітэтамі за голас таго самага выбаршчыка. Цяжэй мне зразумець, якім мэтам прысвечаны былі намаганні старшыні ГП БГКТ А. Баршчэўскага, планаваныя на шэраг паслядоўных ходаў? 13 кастрычніка 91 г. у Гайнаўцы адбывалася адкрыццё культурна-асветнага сезона БГКТ. Сама дата была падабрана нязручна і ў гайнаўлян узніклі каментарыі, што ўзорам з „застойных” гадоў, падчас багаслужбы, у найвялікшае прыхадское свята, адбывалася беларускае арганізацыйнае мерапрыемства. Гэта не прыбавіла папулярнасці нашым кандыдатам. Супадзенне дат магло быць толькі выпадковае, хоць я прапанаваў перанесці гэта мерапрыемства на 20 кастрычніка, з увагі на асабістае жаданне „перапіхнуць” пленум з гэтай даты на пасля выбары. Старшыня ГП А. Баршчэўскі катэгарычна не згадзіўся.

Аставалася яшчэ два тыдні да выбараў, тыдзень да вырашальнага пленума.

Паступова згушчаўся псіхалагічны клімат вакол маёй асобы. На прэзідыуме, на паўтары гадзіны перад пленумам старшыня ГП заявіў аб волі звальнення мяне з пасады сакратара ГП. Вядома, тыдзень заставаўся б на „перажовіны” з дыскусіі, якая б успыхнула ў выпадку спадзяванай маёй заўзятай абароны. На жаль, не атрымалася. Я зараз жа склаў намераную раней, на сам пленум, рэзыгнацыю, матывуючы яе багатым спіскам засцярог да кіраўніцтва БГКТ.

Трэба сказаць, што так задуманая ідэя пленума, хоць у меншай чым планаваная ступені, усе ж такі споўніла сваю адмоўную для маёй выбарчай кампаніі ролю. Двойчы паўтораная па радыё інфармацыя старшыні ГП, што „пленум прыхіліўся да просьбы сакратара Стахвюка Віктара і „вывёў” яго з ГП”, таксама прагучала ў беларускім асяроддзі не без рэха. Непасрэдна пасля выказвання А. Баршчэўскага прагучалі чыесьці словы: „Усе яны сабакі — рука руку мые”! Былі яны вельмі нязручна падабраны рэдактарам радыёперадачы. Усё гэта ўмела і прафесійна ўздзейнічала на падсвядомасць выбаршчыкаў. Магчыма, што пра такія залежнасці і ўздзеянні на выбарчую псіхалогію сам старшыня ГП і не падумаў. Члены пленума заклікалі не шкодзіць выбарчай кампаніі, лічачы яе нашай, беларускай, супольнай справай. Зусім тады не зразумела мне было абвінавачванне маёй асобы, змешчанае А. Барскім у „Ніве” (н-р 44) у 59 частцы ягонай „мяжы” пачуцця сораму і гонару. Тым больш не зразумела, што адбылося гэта на тры дні перад выбарамі. „Ніву” чытае звыш двух тысяч сем’яў!

Які ўсе гэтыя намаганні маглі мець грамадскі рэзананс? Хацелася б, каб мізэрны, бо як кажуць: „мала хто нас чытае”, „а хто нас слухае”?! Іншыя суцяшаюць: „Беларус — гэта сацыяльны тып. Гэта — „гомо экономікус”. Яму не патрэбны нацыянальныя ідэі, тоеснасці, патрыятызмы. Яму патрэбны хлеб. Астатнім ён не цікавіцца”. Не пярэчу, што ёсць у гэтым доля праўды. Таму я не менш быў бы далёкі ад праўды, каб раптам заявіў, што вось палітычныя, ці персанальныя розыгрышы пазбавілі беларускі выбарчы камітэт пасольскага мандату. Здаецца, што аж так значнага ўплыву яны не мелі. Тым не менш, адкіданне апрыёры ўплыву, ці іхняга значэння, завядзе нас у эмацыянальную глухамань: калі ніхто нас не чытае і не слухае, тады дзеля чаго мы займаемся грамадскай дзейнасцю і, у рэшце рэшт, палітыкаю!

Думаю, што для справядлівасці трэба зірнуць і на саміх сябе, на Беларускае дэмакратычнае аб’яднанне, якое з’яўлялася галоўнай сілай Беларускага выбарчага камітэта. Прычына пройгрышу знаходзіцца перш за ўсё ў памылкова акрэсленай стратэгіі БДА, свядома абмяжоўваючай сваю рэальную дзейнасць да сесій Галоўнай рады, ды выпрацоўкі накірункаў інспірацыі беларускіх асяроддзяў. БДА актывізуецца толькі падчас выбарчых кампаній. Пасля спыняе сваю дзейнасць сярод насельніцтва.

Улічваючы ўсё сказанае, думаю, што падчас гэтых выбараў перамог нас не Саюз левых дэмакратаў і яго лідэр В. Цімашэвіч. Гэта мы, беларусы, перамаглі самі сябе. І добра нам так! Можа,

НІНА АМЕЛЬЯНЮК

# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

## IV. СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА. ЛЕКСІКАЛОГІЯ.

### 8. Іншамоўныя словы ў лексічнай сістэме беларускай мовы.1

Іншамоўную лексіку ў беларускай мове можна падзяліць на дзве часткі.

Большасць запазычаных слоў у беларускай мове гэта назвы новых прадметаў, дзеянняў, прымет, навуковых і тэхнічных паняццяў, якія з'яўляліся ў працэсе моўных і гаспадарчых кантактаў паміж народамі, як напр. *мясарубка* (рус.), *рыдлёўка* (польск.), *качарга* (цюрк.), *аазіс* (грэч.), *вірус* (лац.), *ліхтар* (ням.), *дывізія* (фр.), *радар* (англ.) і г.д. Іх асаблівасцю з'яўляецца тое, што яны ўваходзілі ў лексічную сістэму беларускай мовы як назвы раней невядомых прадметаў і паняццяў.

Да другой часткі трэба залічыць тыя іншамоўныя словы, запазычанне якіх абумоўлена не экстралінгвістычнымі фактарамі, але ўнутрымоўнымі, з мэтай удасканалення лексічнай сістэмы мовы. Гэта вельмі важна, каб:

— пазбегнуць непажаданай многазначнасці беларускага слова, напр. у пачатку XX ст. слова *гаворка* абазначала 1. разнавіднасць мясцовай мовы і 2. сукупнасць асобных разнавіднасцей мясцовых моў; пасля запазычання грэчаскага слова *дыялект*, слова *гаворка* стала выкарыстоўвацца ў 1. значэнні, а 2. значэнне перадаецца словам *дыялект*;

— замяніць састаўную назву аднаслоўнай, напр. запазычанае слова *лагаматыя* замяніла састаўную назву *заганы вымаўлення*;

— папоўніць сінанімічныя сродкі беларускай мовы і тым самым узбагаціць яе стылістычныя і мастацка-выяўленчыя магчымасці, напр. *краявід* (бел.) — *пейзаж* (фр.) — *ландшафт* (ням.).2

У залежнасці ад значэння і ўжывання ў складзе іншамоўнай лексікі выдзяляюцца тры тыпы слоў: запазычаныя словы, экзатызмы і варварызмы.3

Запазычаныя словы ў беларускай мове можна падзяліць на дзве групы ў залежнасці ад таго, з якіх моў паходзяць:

1. запазычанні са славянскіх моў:
— старaславянізмы: *благаславенне, уладыка, чэсны,*
— русізмы: *агнямёт, ваенрук, савет,*
— украінізмы: *борыч, жупан, кобза,*
— паланізмы: *апантаны, павідла, цуд,*
— з чэшскай: *бавоўна, калготы, полька* ( танец),
— з сербскай: *вурдалак,*
— з балгарскай: *другары, ракія;*

2. запазычанні з неславянскіх моў:
— балтызмы: *груца, клуня, сціpта,*
— цюркізмы: *арда, аршын, сарафан,*
— грэцызмы: *акіян, бактэрыя, граматыка,*
— лацінізмы: *агітацыя, інфаркт, флексія,*
— германізмы: *бутэрброд, дах, лагер,*
— галіцызмы: *аташэ, жанр, эцюд,*
— англіцызмы: *бокс, імпарт, парламент,*
— італізмы: *акорд, лаванда, фантан,*
— з галандскай: *апельсін, краб, канвой,*
— з іспанскай: *ананас, банан, пума,*
— з партугальскай: *баядэра, каста,*
– з фіна-ўгорскіх (фінскай, эстонскай, карэльскай, комі): *акула, сяўруга, тундра,*
— са скандынаўскіх: *кляймо, сага, слалам,*
— з венгерскай: *гуляш, гусар, чардаш,*
— з румынскай: *брынза, мамалыга,*
— з малайскай: *арангутан, бамбук, какаду,*
— з японскай: *івасі, рыкша, самурай,*
— з кітайскай: *жэньшэнь, чай.*4

„Іншамоўныя словы пранікаюць у беларускую мову прамым ці ўскосным шляхам, г.зн. непасрэдна з іншай мовы ў беларускую або праз якую-небудзь мову-пасрэдніцу. У адпаведнасці з гэтым лексічныя запазычанні бываюць прамыя (ці непасрэдныя) і ўскосныя (або апасрэдаваныя). Да першых адносяцца, напрыклад, рускія словы *ваенрук, глушыцель*, польскія — *здрада, моц*; да другіх — чэшскае слова *бавоўна*, што прыйшло ў беларускую мову праз польскую; цюркскае *табар*, якое трапіла спачатку ў венгерскую мову, затым — у польскую, а з польскай — у беларускую."5

— — — — — — — — — —

1 Літаратура: В.П. Красней, Лексіка і фразеалогія беларускай мовы, Мінск 1982, с. 71-80;

В.П. Красней, У.М. Лазоўскі, І.М. Шчарбакова, Сучасная беларуская мова. Лексікалогія. Фразеалогія, Мінск 1984, с. 49-69;

В.П. Красней, Грані слова. Мінск 1986, с. 91-97.

2 В.П. Красней, Грані..., с. 92-93.

3 Глядзі ў наступных адрэзках.

4 Больш дакладная характарыстыка запазычанняў з аддзельных моў у наступных адрэзках.

5 В.П. Красней, У.М. Лазоўскі,..., с. 49

*****************************************************************

# ПРАПАНОВЫ НЕ ТОЛЬКІ НАСТАЎНІКАМ ГЕАГРАФІІ

Янка Сіпакоў у нарысе „Даверлівая зямля" піша:

„У кожнага чалавека, які меў шчасце некалі нарадзіцца на нашай зялёнай — такой маленькай і такой неабдымнай — зямлі, абавязкова ёсць свой гожы, ласкавы і шчымліва-непаўторны край, які ў вялікім і шырокім паняцці Радзімы звычайна займае невялікае, звыклае месца. Такі край — заўсёды твой цэлы свет. І як бачна вырастае ён у тваёй душы, як шырыцца і запаланяе цябе ўсяго высакароднай гордасцю, светлай радасцю ўжо нават адным толькі напамінкам пра сябе, выпадковаю згадкаю пра знаёмыя табе з дзяцінства мясціны.

Ёсць такі край і ў мяне."

Ёсць такі край і ў нас, беларусаў у Польшчы. Гэта наш Беластоцкі край. Сады ў квецці, залатыя цені клёнаў, туманы над лугамі, шум сасновага бору, серабрысты россып і звонкі гоман раўчука, здалёку відны светлы купал царквы, а таксама калыханка маці, пачутыя ў дзяцінстве песні і расказы, добразычлівасць і гасціннасць простага народу — усё гэта сотнямі нябачных нітак моцна прывязвае кожнага ўражлівага чалавека да Малой Айчыны. Лакальны патрыятызм — гэта штосьці стыхійнае, няўлоўнае, гэта ўрэшце святое пачуццё. Трэба, каб з малых гадоў кожнае дзіця адчула гэтую сілу прыцягнення ўсяго роднага.

Перабудова палітычнага ладу ў Польшчы, Савецкім Саюзе і іншых краінах Усходняй Еўропы дазволіла на многае глянуць па-новаму, у тым ліку і на нацыянальную праблему. Цяпер ужо відавочна, што не ўсё тут так добра, як мы думалі раней. Голыя заклікі да вялікай любові да ўсяго, што створана розумам і рукамі нашых бацькоў, дзядоў і прадзедаў, не падмацаванае канкрэтнымі справамі тых, хто да гэтага заклікае, у атмасферы бяздушнасці і раўнадушша прынялі самыя пачварныя формы. Атрымлівалася так, што дом пачыналі будаваць з даху, забыўшыся пра падмурак і сцены. А падмуркам з'яўляецца менавіта нацыянальны патрыятызм. Вернасць даўніне, любоў да роднай зямлі, любоў да свайго народа з'яўляецца своеасаблівай шкалай патрыятызму. Ад нас бацькоў, настаўнікаў, святароў, інжынераў і звычайных людзей, нашай актыўнасці, свядомасці і адказнасці залежыць самавыратаванне ад бяспамяцтва і зруйнавання помнікаў нашай нацыянальнай культуры.

Балюча, што мы, беларусы Беласточчыны, якія спрадвеку жывем на сваёй зямлі, адракаемся ад роднай мовы, не хочам ведаць сваёй гісторыі, не беражэм сваёй спадчыны, так як гэта робяць ініцыятыўныя, энергічныя беларусы заходняга Вольнага свету. Наш абавязак — як мага больш развіваць узаемасувязі з беларусамі ўсёй зямлі. Каб Усходняя Беласточчына раптам не сталася зонай маўчання ў дэмакратызуючайся нашай частцы Еўропы.

Я, як настаўнік геаграфіі — прадметамаці святога пачуцця Айчыны — увазе сяброў па прафесіі прапаную тэмы ўрокаў і праграмныя лозунгі для выкарыстання ў IV—VIII класах пачатковай школы. Калі ласка, рэалізуйце беларускую і рэгіянальную тэматыку, зусім легальна, у рамках гадзін да дыспазіцыі настаўніка, карыстаючыся даступнымі беларуска- і польскамоўнымі навуковымі, папулярнанавуковымі, турыстычнымі і дыдактычнымі распрацоўкамі, тэматычнымі картамі, энцыклапедыяй, прэсай (толькі, не дай Бог, не беластоцкімі антыбеларускімі „Кур'ерамі" ці „Газетай Вспулчэснай"!), статыстычнымі гадавікамі, магнітафоннымі запісамі, ілюстрацыямі, слайдамі і непасрэдным назіраннем. Мае прапановы па сутнасці зместу дастасаваныя да актуальнай міністэрскай праграмы навучання геаграфіі ў пачатковай школе.

**Юрка Баена**

*Пачатковая школа н-р 3*
*у Бельску-Падляшскім*

IV КЛАС (5 урокаў)

1. Krajobraz puszczy pierwotnej w Białowieskim Parku Narodowym. — Roślinność naturalna i zwierzęta. Ochrona przyrody. Muzeum Przyrodniczo-Leśne w Białowieży.

2. Krajobraz Przełomu Bugu w okolicach Mielnika i Drohiczyna — Przełom rzeki, wzgórza i wały piaszczysto-żwirowe. Kopalnia kredy w Mielniku. Zabytki historyczne Drohiczyna. Miejsca letniskowe nad Bugiem.

3. W Bielsku-Podlaskim — jednym z najstarszych miast Białostocczyzny. — Przeszłość i zabytki historyczne, cerkwie i kościoły. Placówki kulturalne, szkoły z białoruskim językiem nauczania. Wzajemne współżycie ludności dwóch narodów i dwóch religii.

4. Krajobraz białoruskiej wsi (wybranej). — Składniki naturalne i antropogeniczne w krajobrazie. Kultura materialna i duchowa.

5. W Muzeum Białoruskim i Soborze pod wezwaniem Świętej Trójcy w Hajnówce (wycieczka).

V КЛАС (4 урокі)

1. Krajobraz bagienno-leśny Polesia. — Bagna, zarastające jeziora, lasy, wydmy. Zwierzęta. Gospodarka. Skutki osuszenia bagien.

2. Krajobraz Wzniesienia Nowogrodzkiego. — Wzgórza i równiny. Jezioro Świteź. Pomniki historii i zabytki architektury w Nowogródku. Muzeum Adama Mickiewicza.

3. Krajobraz Pojezierza Białoruskiego. — Obfitość jezior, połączenia jezior kanałami, wzgórza, lasy. Rybactwo, turystyka wodna, ośrodki wypoczynku i rekreacji.

4. W Mieńsku — stolicy Białorusi. — Historyczne centrum nad rzeką Niamiha. Urzędy władz republiki. Główne ulice, place, obiekty kulturalne, pomniki, metro. Wielkie zakłady przemysłowe. Dzielnice mieszkaniowe. Tereny wypoczynku i rekreacji.

VI КЛАС (3-4 урокі)

1. Kultura ludowa naszego regionu. — Budownictwo zabytkowe, sztuka ludowa. Obrzędy, zwyczaje, pieśni, tradycje oraz stroje ludowe.

2. Góra Grabarka — świete miejsce Prawosławia. — Podanie o ocaleniu ludzi przed epidemią cholery w 1710 r. na Wzgórzu Pokutników. Żeński klasztor prawosławny, kapliczka ze źrodłem. Odbudowa spalonej Cerkwi Spasa (Przemienienia Pańskiego). Pielgrzymki wiernych.

3. Białoruska emigracja w Stanach Zjednoczonych (lub: Białoruska emigracja w Stanach Zjednoczonych, Kanadzie, Europie Zachodniej i Australii). Główne centra życia kulturalnego i religijnego. Organizacje społeczne, zespoły folklorystyczne, chóry, prasa i audycje radiowe.

VII КЛАС (5 урокаў)

Republika Białoruś:

Położenie geograficzne i polityczne.

Środowisko geograficzne — ukształtowanie powierzchni, bogactwa mineralne, klimat, rzeki i jeziora, gleby, roslinność i zwierzęta. Ochrona przyrody.

Przemysł.

Rolnictwo.

Ludność, miasta. Kultura.

Zagrożenie życia biologicznego i zdrowia ludzkiego po awarii elektrowni atomowej w Czernobylu.

Regiony turystyczne.

VIII КЛАС (5-6 урокаў)

Białoruska mniejszość narodowa w Polsce:

Wschodnia i poludniowo-wschodnia część województwa białostockiego — region stale zamieszkany przez Białorusinów. Sieć osadnictwa wiejskiego, ośrodki miejskie.

Osobliwości etniczne i tradycje kulturalne.

Szkolnictwo białoruskie. Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne i inne organizacje. Tygodnik „Niwa".

Stan zagospodarowania regionu na tle województwa i Polski.

Współczesne problemy społeczne i kulturalne białoruskiej mniejszości narodowej.

Moje miejsce w regionie i w Polsce.

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## ПРЫЗ ЗА ЦІКАЎНАСЦЬ

На высокай сасне было дупло — вавёрчына хатка. Аднаго разу з дупла выглянула вавёрачка: вочкі — гузічкі, вушкі — пэндзлікі.

Убачыла вавёрачка сароку. Вельмі цікава. Трэба паглядзець, куды тая ляціць.

Напалавіну з дупла вылезла.
Якраз матылёк ледзь на нос не сеў. Што за птушка такая?

Вылезла вавёрачка з дупла. Султанчыкам хвост падняла.

Вось грыб заўважыла. Ён на сучку вісіць, на другім дрэве. Відаць, маці-вавёрка сушыць павесіла. Хітрая, яна ведае: убачыць вавёрачка грыб — абавязкова захоча паласавацца ім.

Сядзіць вавёрачка — на грыб глядзіць. Дабрацца да яго нібыта проста, лапкай падаць. Варта толькі з дрэва на дрэва пераскочыць.

І хочацца, і страшна. Вавёрачка яшчэ ні разу ў жыцці не скакала. Маладзенькая яна.

Глянула ўніз — быццам бездань перад ёю.
Але ж і грыб вабіць.
„Эх, што будзе!" — адважылася вавёрачка.
Зажмурылася — і скокнула.
Прыз — чырвоная шапачка падасінавіка.
За цікаўнасць, за адвагу.

**Валеры Кастручын**



*Вечарам у хаце бабулі.* **Фота З. Яўтуховіча.**

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

**Казімір Камейша**

### ВЕЧАР

Залатой дарожкай з мора
Адыходзіў дзень за горы
Прытамлёным хадаком.
Стала сонейка маленькім,
Стала сонейка манетным,
Невялікім медзяком.

Ну а там, далёка недзе,
Дзе зямля сышлася з небам,
Як вялікая скарбонка,
Сіняя гара стаяла.
І па медзяку штовечар
На гарыстай той сінечы
У скарбонку медзяную
Неба весела кідала.

Там, дзе скалы,
Там, дзе рыфы,
На хвасце вялікай рыбы
Дрэмле сонейка другое,
Дзень свой сніць.
Заўтра нас яно разбудзіць
І свяціць дасхочу будзе,
А пасля у вечар пойдзе
І ў скарбонку заляціць.

**Алесь Пісьмянкоў**

### БЯДА

Саўка ды Грышка
Трапілі ў бяду:
Саўка ды Грышка
У школу не ідуць.
Саўка ды Грышка
Лёталі з гары.
Пагублялі кніжкі,
Кніжкі-буквары.
А сабака Рыжык
Бегаў па двары,
А сабака Рыжык
Згледзеў буквары:
„Зацягну у будку
Ды чытаць там буду!"

Не кідай жа кніжку
Так як Саўка з Грышкам,
Бо й суседскі Шарык
Марыць пра букварык.

**Алесь Каско**

### СКОРАГАВОРКА

Шчупакі, шчупакі
павыскаквалі з ракі:
„Скок-скок, смех які —
нас не зловяць рыбакі!"
А здалёку хлапчукі
пазіраюць з-пад рукі:
вось дык дзіва — шчупакі
павыскаквалі з ракі!



***********************************************************************

**Украінская народная казка**




Жылі-былі мышаняты Круць ды Верць і пеўнік Галасістае Горлачка.

Мышаняты толькі тое і рабілі, што спявалі ды танцавалі, круціліся ды вярцеліся.

А пеўнік, як толькі ўзыходзіла сонейка, падхопліваўся, спачатку ўсіх песняй будзіў, а потым за работу браўся.

Аднойчы падмятаў пеўнік двор і ўбачыў на зямлі пшанічны каласок.

— Круць, Верць! — паклікаў пеўнік. — Гляньце, што я знайшоў!

Прыбеглі мышаняты і кажуць:

— Яго трэба абмалаціць, а з зерня ў млыне мукі намалоць.
— А хто гэта зробіць? — спытаў пеўнік.
— Толькі не я! — закрычала мышаня Круць.
— Толькі не я! — закрычала мышаня Верць.
— Добра, я сам зраблю, — сказаў пеўнік.
Вярнуўся пеўнік з млына, кліча мышанят:
— Сюды, Круць, сюды, Верць! Я муку прынёс!

Прыбеглі мышаняты, дзівяцца і хваляць:

— Вось дык пеўнік! Вось дык малайчына! Цяпер цеста трэба замясіць, пірагі спячы!

— Хто будзе мясіць? — пытае пеўнік.

— Толькі не я! — пішчыць мышаня Круць.
— Толькі не я! — пішчыць мышаня Верць.

Падумаў, падумаў пеўнік дый кажа:

— Відаць, мне прыйдзецца.
Замясіў цеста, нанасіў дроў, запаліў у печы і спёк пірагі. Паклаў пірагі на стол, а мышаняты тут як тут. І клікаць іх не трэба.

— Ох, і галоднае ж я! — пішчыць мышаня Круць.
— Ох, і есці ж хочацца! — пішчыць мышаня Верць.

І хуценька за стол паселі.

А пеўнік ім кажа:

— Пачакайце! Вы спачатку скажыце мне: хто знайшоў каласок?

— Ты знайшоў! — голасна закрычалі мышаняты.

— А хто каласок абмалаціў і панёс зерне ў млын?

— Таксама ты, — ціха адказалі Круць і Верць.

— А цеста хто мясіў? Дровы насіў? У печы паліў? Пірагі пёк?

— Усё ты... Усё ты... — ледзь прапішчалі мышаняты.

— А вы што рабілі?

Не ведаюць мышаняты, што сказаць. Пачалі вылазіць з-за стала, а пеўнік іх і не затрымлівае.

Няма за што такіх лайдакоў пірагамі частаваць!

## А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А



**Дзе маладзік?**
*На небе два сярпы месяца. Каторы з іх маладзік, а каторы–веташок-стары месяц?*

# Малюнкі школьнікаў



*Мышка Пік-Пік і гітара.*

**Маляваў Кшысь Савіцкі.**

# ********** АПЕЛЬСІНЫ

Зіна і Сымонка жывуць у вялікім доме, на пятым паверсе. Дом стаіць на ўзгорку, і людзі падымаюцца ў двор па крутой лесвіцы.

З акна відаць, як вяртаецца з работы маці. Сёння Зіна першая ўбачыла яе — з поўнай сеткай і сумкай у руках.

— Сымонка, сустрэнем маму, — сказала брату. — Бачыш, ёй цяжка.

— Ідзі адна, — не згадзіўся Сымонка. — У мяне жывот баліць.

Зіна сустрэла маці, памагла паднесці сетку. І неўзабаве на стале вырасла цэлая горка апельсінаў.

— Ешце на здароўе, — запрасіла маці і прысела адпачыць.

— А Сымонку нельга: у яго жывот баліць! — папярэдзіла Зіна.

— Праўда, сынок? — падхапілася з крэсла маці. — Мо доктара паклікаць?

— Не трэба, мама, не вельмі баліць.

— Але апельсінаў пакуль не еш.

Сымонка толькі слінкі праглынуў. А Зіна схапіла самы большы апельсін і пабегла да сябровак. У двары трошкі палюбавалася апельсінам, ачысціла яго, разламала на долькі. Адну дольку з'ела сама, астатнія — раздала сяброўкам.

Сымонка адвярнуўся ад акна. Ён не мог болей пазіраць ні ў акно, ні на стол, дзе ляжалі апельсіны. Вялікія, аранжавыя! Аж у роце перасохла — так захацелася паспытаць апельсінавага соку.

— Даруй, мама.

— За што, сынок?

Сымонка пачырванеў, прызнаўся:

— У мяне жывот не баліць. Зіна клікала, каб памог табе, а я...

Маці падышла да Сымонкі, прытуліла яго да сябе:

— Добра, што прызнаўся, сынок. А памагчы мне яшчэ паспееш... Частуйся, бяры апельсіны.

Сымонка выбраў з аранжавай горкі апельсін і пабег на двор, да дзяцей.

**Васіль Давыдзенка**

## Вершы Віктара Шведа

### З КОМІНА ВЫХОДЗІЦЬ НОЧКА

Абед варыць мама
У нядзелю ўлетку.
На дварэ ўжо гамаць
Захацелі дзеткі.

Маленькі Валодзя
Падняў увысь вочкі;
— З коміна выходзіць
Страшэнная ночка.

### ПРЫГОЖЫ СЯРОЖА

— Ты такі прыгожы,
Дарагі Сярожа.
Маеш нос матулі,
А вусны бабулі.
Ну а вачаняты —
Хіба твайго таты.
— Боцікі сястрыцы,
Брата нагавіцы,
Таму я прыгожы, —
Даказаў Сярожа.

### СПЯШАЕЦЦА МОЙ СТРАЎНІК

Пытаецца Валодзя:
— Ці ўжо, мама, поўдзень?
Адказвае маці:
— Толькі адзінаццаць.
— Дык дайце мне ўрэшце
Крышачку паесці.
Спяшае няспынна
Страўнік на гадзіну.

### ПАДОБНЫ НА ТАТУ

Пеці споўніўся гадок,
Госцікі прыйшлі дахаты.
Маме кажуць: — Ваш сынок
На свайго падобны тату.

— Мо й падобны наш Пятрук
На свайго татульку Фэлька.
Асабліва, калі з рук
Хочуць адабраць бутэльку.

## Вучнёўская творчасць

### АПІСАННЕ ПРЫРОДЫ НА АСНОВЕ АПАВЯДАННЯ Я. КОЛАСА „У СТАРЫХ ДУБАХ".

На беразе ракі Нёман разлёгся гай старых дубоў. Недалёка ад дубоў, на скошаным лузе стаялі парыжэлыя стагі. На ім збіраліся ў чароды буслы і доўга стаялі на грудах або ляніва аглядалі лагчыны. Каля дубоў пастушкі-дружакі пасьлі свае статкі.

Пачыналася восень.

**Войтэк Янкоўскі**
**V„а"клас, школа н-р 3**
**у Бельску-Падляшскім.**

**Беларускія гульні**

### У ЧЫЖЫКА

Гуляюць двое, абодва з палкамі, якія называюцца лаптою. Акрамя таго, робяць яшчэ кароценькую палачку і завострываюць яе ў канцы. Гэта палачка завецца чыжыкам. На зямлі чэрцяць круг або квадрат. Адзін з ігракоў, каму прыдзецца верх па палцы, становіцца з чыжыкам у круг, а другі ідзе ў поле. У крузе чыжыка кладуць на зямлю. Ігрок б'е лаптою па яго вострым канцы. Чыжык падскоквае ўгору, у гэты час трэба яго ўдарыць так, каб ён паляцеў далёка ў поле. Калі ігрок прымусіць чыжыка падскокнуць тры разы і не здолее загнаць у поле, ён прайграў. На яго месца становіцца палявы. Чыжыка, якога выгналі ў поле, палявы павінен пераняць на ляту лаптою. Калі ж чыжык упадзе на зямлю, палявы паднімае яго, кідае ў круг і сам ідзе выбіраць у поле.

Іграki дагаворваюцца на 20 удараў; хто першы выканае такую колькасць, мае права прымусіць другога праскакаць на адной назе адлегласць ад поля да мяжы столькі разоў, колькі не выканана ўдараў.

# СОНЕЧНЫ ЗАЙЧЫК

**казка**

Сонца паднялося высока над будынкамі, над вершалінамі тапаляў. Адзін яго прамень упаў на люстэрка, якое стаяла на старым серванце, і тут па сцяне заскакаў Сонечны Зайчык.

— І колькі можна спаць! — прамовіў ён. — Давайце будзем гуляць! Даўно ўжо дзень наступіў!

— А я і не сплю, — заварушыўся Белы Мядзведзік, які сядзеў у крэсле. — Я сон хачу дагледзець. Такі цікавы сон прысніўся. Нібыта я плыву на крызе сярод мора-акіяна, а навокал цюлені і маржы...

— Хі! — засмяяўся Сонечны Зайчык. — А па сцяне ты ўмееш хадзіць? Ці па столі? Вось так, як я?

Белы Мядзведзік толькі ўздыхнуў у адказ.

— А гэта што за палена ляжыць на падаконніку?

— І не палена! Я — Кракадзіл. Толькі не афрыканскі і не індыйскі, а цацачны! — пачуўся пакрыўджаны голас.

— Тады даганяй мяне! — і Сонечны Зайчык выскачыў з пакоя, заскакаў па вершаліне таполі, па бліжэйшых дахах суседніх будынкаў.

— Ух! Аж стаміўся! — вярнуўся ён у светлую залу і зноў прымасціўся на сцяне. — Але я бачу: вы нічога не ўмееце!

— Мне б толькі Таццянку з дзіцячага садка дачакацца. Яна пасадзіла б мяне ў халадзільнік, там так прахладна, — зморана прамовіў Белы Мядзведзік.

— А мне б у ванне паплаваць... — пазяхнуў на падаконніку Кракадзіл.

— Яно і відаць, што вы — цацачныя. А я — усё магу. Вось крыху адпачну і забяруся аж... аж на неба! Не верыце?

Белы Мядзведзік толькі паціснуў плячамі, а Кракадзіл замаргаў жоўта-зялёнымі вачамі.

— Ну так глядзіце! — выгукнуў Сонечны Зайчык і тут адчуў, што яго ўжо няма ў пакоі.

Як не ўглядаліся ў неба Белы Мядзведзік і Кракадзіл, нічога не ўбачылі.

— Дзіўна! — з жалем прашаптаў Белы Мядзведзік. — Куды ж ён знік, гэты вясёлы Зайчык?..

— Нічога дзіўнага! — здагадаўся кемлівы Кракадзіл. — Проста сонца схавалася за хмару. Але ты не хвалюйся, Сонечны Зайчык яшчэ вернецца і зноў развесяліць нас. Толькі каб свяціла Сонца!

**Васіль Чухліб**

**Пераклаў на беларускую мову**

**Валеры Бабей.**

## А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А



*Памажы вавёрачцы знайсці дарогу да яе кладоўкі.*




Дарагі Астроне! Сніцца мне вось так. Прыходжу я на работу, а мне кажуць, што непатрэбна, бо наша прадпрыемства ліквідавана. Прапануюць мне другую працу, за 800 тысяч у месяц. Я не згаджаюся. І вось бачу, што ўжо навокал майго прадпрыемства будуюцца прыватныя домікі. Іх ставяць вельмі хутка. Тры ўжо зусім гатовыя, а чацверты амаль. Домікі маюць балконы. Мы стаім разам з сястрой і глядзім на іх з прыемнасцю. І раптам мне ўспомнілася лета. Я гавару сястры: „Ты помніш, як мы летам ішлі палявой дарогай, а з абодвух бакоў расло жыта. Было высокае, залатое і званіла-спявала. Мы думалі, што гэта вецер іграе ў калоссях, а гэта розныя мушкі-жучкі жужжалі ў збожжы. Свяціла сонца і было вельмі прыемна". Гэта я ёй расказваю і мы гэта як бы цяпер бачым. Нам вельмі прыемна і мы стаім і ўсміхаемся.

**Валянціна**

Мая дачка ў Амерыцы. І прыснілася мне, што я паехала яе наведаць. Іду з ёю і яна мне паказвае, дзе жыве. Гэта невысокі драўляны домік. Перад гэтым домікам стаіць другі, вельмі падобны, толькі ніжэйшы. У ім жыве сяброўка, з якой яна паехала ў Амерыку. Пасля я знаходжуся ў нейкім доме. Уваходзіць у пакой гэтая ж сяброўка дачкі з сынам. Я гляджу на яе, а яна такая малая, дзіцячага ўзросту, і сын яе такі маленькі. І гэта ўсё.

**Марыся**

Валянціна! Чакаюць цябе клопаты, звязаныя з пэўнай цяжкой працай. Праца гэта будзе звязана нейкім чынам з тваёй сястрой, бо ж вы з ёю стаялі і аглядалі з прыемнасцю тыя прыгожыя домікі, што будаваліся каля твайго прадпрыемства (толькі старому і хвораму гэтыя дамы прадвяшчалі б блізкую смерць). Мо сапраўды ты зменіш месца працы. У кожным разе вынікам будзе вялікае задавальненне з тае цяжкой працы і значны матэрыяльны прыбытак. Маю тут на думцы твае асацыяцыі з прыгожым жытам, мушкамі-жучкамі, летам і сонцам.

Марыся! А твой сон навеяны, відаць, рэчаіснасцю. Думаеш пра дачку і таму сніцца так. Але наогул сніць заграніцу — добра.

**АСТРОН**




Дарагое Сэрцайка! Усё было цудоўна. Хлопец быў прыстойны, дзяўчаты млелі за ім. А да таго ж быў вельмі разумны і страшэнна начытаны. Мне імпанавала найбольш, што заўсёды з ім можна было пагаварыць на літаратурную тэму. Ён першы ў нашай кампаніі прачытваў новыя кнігі.

Так, вельмі мне гэта імпанавала, але да пары... пакуль нашы інтымныя адносіны не сталі занадта блізкімі. Высветлілася, што мой чароўны хлопец гэта ходзячая кніжка, у якой няма месца для яго самога.

Калі да гэтага ён гаварыў прыгожыя словы, мне здавалася, што ідуць яны з яго сэрца, што прыдумаў іх ён сам. Калі я апынулася з ім у пасцелі, дык заўважыла, што ён не толькі гаворыць, але і робіць усё па-кніжнаму. І тады я ўсумнілася ў яго пачуццях.

Ну, скажы, Сэрцайка, ці ж можа быць так, што хлопец нават цалаваць спантанна не ўмее, а цалуе дзяўчыну толькі ў тыя месцы, пра якія ў кніжцы напісана, што яны то ўжо напэўна эратычныя. А мяне гэта дражніць і то да такой ступені, што адхочваецца ўсяго.

Я так доўга марыла, каб быць з гэтым хлопцам і толькі з ім. І вось нарэшце сталася — здавалася б, ён мой. Але ён мой і не мой. Часамі мне нават здаецца, што сплю з кніжкай, а не з хлопцам, якога кахаю.

Не ведаю, Сэрцайка, можа ён хоча і лепш, але псуе ўсё. Калі ён паводзіць сябе ў пасцелі занадта па-кніжнаму, мне пачынае здавацца, што ўсё гэта няшчырае, не яго — чужое. І перастаю адчуваць прыемнасць пры палавых зносінах з ім.

А мне б хацелася, каб ён у кожным момане быў сабою. Няхай бы быў і не такі ўмелы, і не так спрытны, і не такі адважны. Але няхай бы быў мне па-свойму адданы і шчыры. Няўжо ж я не зразумела б, што хлопец у дваццаць гадоў яшчэ не ўсё ўмее так, як трыццаціпяцігодак?.. Няхай бы мяне цалаваў дзе папала — мне б гэта дало больш прыемнасці, чым яго вырэжысіраваныя рухі і ўчынкі.

Што рабіць, Сэрцайка? Як сказаць майму хлопцу, якога я надта кахала, што каханне маё вось-вось пройдзе, калі ён не зменіць свае адносіны да мяне? Проста гэткая сітуацыя пачынае мяне дражніць. Калі кладземся ў ложак, пачынаю баяцца яго няшчотаў, дотыкаў яго пальцаў, занадта „эратычных" пацалункаў. А я думаю, што калі ўжо гэта пачынае мяне дражніць, дык будзе гэта пачатак нашага канца...

**Агата**

Агата! Ну, што ж, маеш рацыю, на жаль. Хлопец, які дакранаецца да цябе і цалуе толькі ў найбольш эратычныя месцы, робіць вялікую памылку: ён не бярэ пад увагу таго, што і ты пра гэтыя месцы можаш ведаць, а ў такім выпадку вынік можа быць цалкам супрацьстаўны. Не робім больш памылак ад тых, калі ўяўляем, што іншыя дурнейшыя за нас. Пэўна, ён мяркуе, што толькі ён чытае кніжкі, а ты аб гэтых справах і паняцця не маеш. І так ужо хоча табе дагадзіць, такое выклікаць уражанне - а ўсё псуе гэтым.

Па-мойму, нічога лепшага ад інтуіцыі чалавека пакуль што не вынайдзена. Свет быў бы вельмі сумны, калі б усе людзі кахаліся аднолькава — па кніжцы.

**СЭРЦАЙКА**

**********************************************



# БЕЛАРУСІЯНА НА КАРЦЕ БЕЛАСТОКА

**Вуліца Сланімская** знаходзіцца ў старым квартале Баяры. Яе даўжыня з паўкіламетра. Брукаваная. Паабапал яе шмат драўляных дамоў, але і ёсць і мураванкі. На гэтай вуліцы знаходзілася раней гарадская лазня. Зараз тут шмат крамаў, пераважна прыватных.

Тэкст і фота

**Я.Целушэцкага**






**З ІТАЛЬЯНСКАЙ КУХНІ**

**Белы рыс**

На 250 г рысу трэба ўзяць 5-6 шклянак вады, лыжачку прыправы для супоў, 50 г масла, 50 г сцертага сыру, дробна пасечаныя зёлкі, памідорны, рыбны ці мясны соус.

Белы рыс — „riso in bianco"- гэта, уласна кажучы, падставовы рэцэпт на падрыхтоўку рысу. Крыху пасоленую ваду давесці да кіпення, паволі ўсыпаць рыс і пакінуць на 10 мінут на невялікім агні, каб ён набрак. Рыс павінен быць яшчэ паўцвёрды — „al dente". Тады зліць ваду і падаваць рыс з маслам і сырам, з соусам, рыбай ці мясам.

**Рыс па-сіцылійску**

На 250 г рысу трэба ўзяць 250 г мяса кураняці ці іншай птушкі, 5 шклянак булёну, 1 лыжачку вострай папрыкі, 5 шклянак смятаннага соусу, 150 г птушынай пячонкі, 2 сярэднія цыбуліны, 250 г шпарагаў або іншай гародніны — фасолі, гароху, ды зеляніну пятрушкі.

Рыс і цыбулю падтушыць у гарачым алеі, заліць булёнам, пакінуць на 10 мінут, каб рыс набрак. Дробна нарэзанае птушынае мяса і пячонку падсмажыць на алеі. Рыс заправіць папрыкай, перамяшаць з мясам, палажыць у формачку і шчыльна ўтрамбаваць, пасля чаго пералажыць на падагрэтую талерку. На сярэдзіне палажыць перамешаную са смятанным соусам звараную, але яшчэ цвердаватую гародніну. Зверху пасыпаць пасечанай зялянінай пятрушкі.

**Рыс з грыбамі**

На 250 г рысу трэба ўзяць 250 г пячурыц або іншых грыбоў, 40 г масла, 3 лыжкі алею, 1 сярэднюю цыбуліну, 1 кілішак белага віна, 1 лыжку таматнага канцэнтрату, 2 лыжкі пасечанай зеляніны пятрушкі, 1 літр булёну, 2 лыжкі сцертага „пармезану".

На тлушчы падсмажыць дробна пасечаную зеляніну пятрушкі і цыбулю, а таксама нарэзаныя тоненькімі скрылёчкамі грыбы. Крыху падсмажыўшы, дадаць сухі рыс і памешваць яго на працягу 5 мінут. Тады ўліць віно і булён, памідорны канцэнтрат. Пакінуць на малым агні гэту страву мінут на 15, каб рыс увабраў у сябе вадкасць. Перамяшаць з „пармезанам" і адразу падаваць з місачкай „пармезану" і вялікай міскай салаты.

**ГАСПАДЫНЯ**

## ЦЯГНІК ВАРШАВА — МЕНСК

Ад 4 лістапада паміж Варшавай і Менскам курсіруюць міжнародныя пасажырскія цягнікі. З Варшавы цягнікі ад'язджаюць па панядзелках і чацвяргах (з вакзалаў: Варшава-Заходняя — 0.35, Варшава-Цэнтральная — 0.52, Варшава-Усходняя — 1.10) і прыязджаюць у Менск а гадзіне 11.37 паводле маскоўскага часу. З Менска цягнікі ад'язджаюць а гадзіне 17.53 паводле маскоўскага часу па чацвяргах і пятніцах.

Купляць білеты і браніраваць месцы можна ў міжнародных касах ПКП.

# НІЎКА

## ПРА КУРЫЦУ...

Знесла курыца яйка вагой пяць кілаграмаў. Прыехаў карэспандэнт і пытаецца ў курыцы:
— Як гэта ў вас здарылася?
— Сакрэт!
— Вашы планы на будучыню?
— Знесці яйка вагой сем кілаграмаў.

Карэспандэнт ідзе да пеўня і пытаецца:
— Як гэта ў вас здарылася?
— Сакрэт!
— Вашы планы на будучыню?
— Пабіць морду страўсу!

## КЛАПОЎ...

Сустракаюцца два сябры:
— Ты чаго такі сумны?
— Мае клапы аб'явілі вайну суседскім.
— Дык радуйся: пераб'юць адзін аднаго.
— Ага, радуйся... Учора яны паўтары тысячы палонных прывялі.

## І СЛОНІКАЎ

Дачка назойліва прыстала да бацькі-афіцэра.
— Татка, скажы, каб слонікі пабегалі!
— Яны ўжо стаміліся, — адказвае бацька.

Дачка ўсё роўна стаіць на сваім:
— Татка, ну скажы, каб слонікі пабегалі!
— Дачуся, хай яны адпачнуць.
— Не, скажы!
— Ну, добра, — згадзіўся бацька і загадаў: — Рота, надзець супрацьгазы і за машынай бягом марш!




*Мал. А. Каршакевіча („Чырвоная Змена")*

## ПАРОДЫІ
### Заплялася

*На маіх далонях мазалі.*
*Мы з дзядулем кашоў*
*напялі.*
*Сёння я прадаю кашы*
*У Расонах на кірмашы.*
*І я важная з гэтай*
*прычыны!*
*І мяне абступілі жанчыны.*

**„Кірмаш", Ганна Іванова.**

А мяне абступілі жанчыны,
Справа, бачыце, у важнай
прычыне:
У Расонах на кірмашы
Прадаю я ад рана кашы.
Наплялі мы з дзядулем
кашоў,
Назбівалі сабе мазалёў.
Але думкі пас цешаць другія:
Будуць грошы, ды ці малыя!
Прадаю я налева, направа,
Хутка мчыцца да фінішу
справа
Дома бацька гукнуў
з-за стала:
„Во, не вершы — кашы б
лепш пляла!"

**А. НЕНАДАВЕЦ**
(„Чырвоная змена")

## ІМПАРТГУМАР

Васіль Іванавіч з Пецькам пайшлі ў заклад, што калі той апошні адгадае, у якой руцэ бутэлька гарэлкі, тады яе вып'юць, калі не — паб'юць.

Пецька:
— У левай.
— Думай, Пецька, думай.

* * *

Паслалі Васіля Іванавіча і Пецьку ў Афрыку весці культурную дзейнасць сярод неграў. Пасля паўгадовай працы прыйшоў час на кантроль.

Прыехала камісія, глядзіць: Васіль Іванавіч плавае на маторнай лодцы і цягае за сабою негра на вадзяных лыжах.

Радуюцца члены камісіі за Васіля Іванавіча і ідуць да Пецькі. Адышлі круху ад возера і амаль розум не страцілі: Пецька запрог двух неграў і арэ поле.

— Што ты вырабляеш, — гаворыць кантралёр, — ты ж людзей замучыш. Браў бы прыклад з Васіля Іванавіча, які чорнаскурага воднал ыжнаму спорту навучае.

— Ну і дзівакі з вас, — адказвае Пецька. — Гэта ж Васіль Іванавіч кракадзіла на жыўца ловіць.

* * *

Аднойчы Пецька ўбачыў, як Васіль Іванавіч да Мані збіраецца, і кажа:
— Дык што ты, Васіль Іванавіч, яна ж з усімі мужчынамі на Кубані спала.

Наступнага дня Васіль Іванавіч бачыць, як Пецька да Мані спяшаецца, ва ўсё новае адзеты.
— Пеця, ты куды?
— Да Мані сватацца пайду!
— Ты ж мне казаў, што яна з усёй Кубанню спала.
— А ты занаеш, Васіль Іванавіч, я сёння паглядзеў карту: колькі ж яе, тае Кубані?!

*Выбраў і падрыхтаваў*
*Янка Целушэцкі*

****************************************

**Спявае „Грамада"**

## НАД ШЧАРАЙ

*Музыка і верш*
*Сяргея Новіка-Пяюна*

Вечар. Над Шчарай лягла
Белым прывідам імгла.
Вецер заціх, не шуміць.
Сном веснавым Слонім спіць.

Толькі адзін я не сплю —
Сэрца баліць, бо люблю!
Меру за крокам я крок,
Мчыць са мной думак паток.

Ішоў бы, здаецца, так ўдаль,
Скінуў бы з сэрца я жаль.
Скінуў бы сум і тугу,
Але, дарма, не магу. } 2 разы

Дзе ты, галубка мая?
Чуеш, як мучуся я?
Чуеш, як сэрца баліць?
Чуеш, як цяжка мне жыць?

Ты запытала: Чаму?
Так на цябе я гляджу?
Ты ж ані цар, ані Бог! —
Я даць адказу не мог.

Але затое цяпер
Праўду кажу, мне павер,
Слухай, галубка мая:
Шчыра люблю цябе я! } 2 разы

Ведаеш добра й без слоў,
Што маіх мроя ты сноў,
Што за цябе дам жыццё,
Радасць ты й шчасце маё!

Вольна ўдаль Шчара бяжыць,
Хваляй аб бераг плюхціць.
Думкаў нястрыманых ток
Мчыць, як бурлівы паток.

Ноч. А над Шчарай лягла
Дзіўным прывідам імгла.
Вецер заціх, не шуміць.
Сном веснавым Слонім спіць. } 2 разы



****************************************

**Hiва**

„Niwa", ul.Suraska 1, 15-950 Białystok skr. pocz. 149, tel. 210-33.
Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne, 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.
Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

**Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. *Рэдагуе калектыў: Мікола Ваўранюк, Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга (адказны сакратар).*

I.Prenumerata pocztowa
1.Termin wpłat na prenumeratę pocztową na I kwartał 1992 r. upływa 20 listopada 1991 r.
2.Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 19.500 zł + 6.500 zł za doręczenie.
3.Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.
Nr. konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.
II.Prenumerata własna - prowadzona przez wydawcę.Cena 1 egz.z wysyłką wynosi 2.500 zł.
Cena prenumeraty miesięcznej:
- listopad - 10. 000 zł.
- grudzień - 12. 500 zł
Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.